PL ISSN 0546 - 1960
NR INDEKSU 366714

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

№ 40 (1951) ГОД XXXVIII БЕЛАСТОК 3 КАСТРЫЧНІКА 1993 г. ЦАНА 3000 зл.

## ... ПАКЛАЛІ, А НЕ ПРАГАЛАСАВАЛІ

У абсягу выбарчага пункта ў Янове апынулася шэсць вёсак — само Янова, Градочна, Гародчына, Даратынка, Козлікі і Ляхі. Асоб з правам голасу ў гэтых вёсках аказалася 450 — паведаміў старшыня выбарчай камісіі ў Янове спадар Данель Раманскі. У нядзелю 19 верасня да 19-тай гадзіны галасы свае аддалі ўсяго чалавек 90. Лічба гэтая, трэба меркаваць, не пахіснулася заўважальным чынам, хаця выбарчы пункт працаваў яшчэ тры гадзіны. На вёсцы кожны, хто меў намер аддаць свой голас у сёлетніх выбарах, зрабіў гэта яшчэ да абеда, або зараз пасля яго.

Запытаў я старшыню Д. Раманскага — паляка, які перад трыццаццю гадамі пераехаў з Познаньскага, пасяліўся ў Нарве і тут жа ажаніўся — пра прычыны такога мізэрнага ўдзельніцтва беларусаў у выбарах. Удзельніцтва ў выбарах, сказаў ён, было б, пэўна ж, большым, але людзі не навыклі яшчэ да таго, што галасы трэба аддаваць асабіста. Некаторы ўплыў мае тут тая спадчына часоў сацыялізму, калі ўладзе залежала на стапрацэнтнай прысутнасці выбаршчыкаў — тады людзі галасавалі за сябе і сваю сям'ю, а солтыс, бывала, галасаваў за палову вёскі. Гэтага стаўлення да выбараў людзі не пазбыліся і па сённяшні дзень. Былі выпадкі, што людзі прыязджалі і хацелі галасаваць за сябе ды жонак, матак. Калі камісія тлумачыла ім, што такое немагчымае, яны, у найлепшым выпадку, галасавалі за сябе і раз'язджаліся па хатах. Бывала, што праз гадзіну-дзве ў камісію заходзілі іхнія жонкі, каб за сябе прагаласаваць. Але былі, на жаль, і іншыя выпадкі — заходзіць, прыкладам, у камісію бацька з сынам, ды хочуць аддаць голас за сябе, маці, бабулю і каго там яшчэ. Мы кажам ім, што можна толькі за сябе саміх. Як не, кажа бацька, то не — сына за рукаў і пайшлі. Ніхто не аддаў голасу. Нейкі зрух, заўважыў Д. Раманскі, аднак, адбываецца. Даволі высокую прысутнасць у выбарах праявілі жыхары вёскі Ляхі — калі глянуць некалькі гадоў назад, то іх удзельніцтва бывала нулявым. Гэта аднак вынік таго, што ў вёсцы нешта адбываецца — людзі гаспадараць, думаюць пра лепшыя дарогі.

Мушу ў гэтым месцы дадаць асабісты каментарый на тэму малой прысутнасці (або лепш: адсутнасці) беларусаў у выбарах. Не адмаўляючы рацыі Д. Раманскаму — ён жа паляк, якому залежыць на пашане з боку асяроддзя, у якім жыве — трэба сцвердзіць, што абыякавасць беларусаў да выбараў — зусім незразумелая. Бо як жа ж растлумачыць факт, што ўкраінцы, якія рассеяныя па ўсёй краіне, узялі ў сваіх гмінах пасведчанні, быццам бы мусяць у дзень выбараў ехаць на свята ў Белы Бор, што ў Кашалінскім ваяводстве і там жа, у адным выбарчым пункце сканцэнтравалі свае галасы. Наехала іх туды столькі, што не хапіла выбарчых білетаў — давозілі іх з самога Кашаліна. Украінцы ехалі з Пярэмышля, Варшавы, Вроцлава.

Ці можна малое ўдзельніцтва ў выбарах апраўдаць аддаленасцю выбарчага пункта ад месца пражывання? Кепская справа — кожнае лета бачу, як на адвячорку пруцца самаходамі ў суседнія вёскі, каб там жа пасядзець пад крамай і папіць піва, высікаючы за вуглом па некалькі дзесяткаў тысяч злотых.

Наканец можна задумацца, на каго прагаласавалі тыя людзі, якія ўсё-такі адведалі выбарчыя пункты. Ад знаёмага, які сядзеў у выбарчай камісіі (не ў Янове) я даведаўся, што прыйшла туды бабуля і прасіла: „Паночку, пакажыце, дзе Цімашэвіч, бо чытаць не ўмею". У Янове ж адзін дзядзька, якога я запытаў, таксама вельмі хацеў прагаласаваць за Цімашэвіча. Не ўдалося! „Акуляраў, бляха, забыўся і не пацэліў я сваім крыжыкам у Цімашэвіча. У нейкую бабу трапіў!" — тлумачыў селянін.

**А. МАКСІМЮК**

## ЗАПРАШАЕМ НА З'ЕЗД КАРЭСПАНДЭНТАЎ!

24 кастрычніка 1993 г. (нядзеля) у памяшканні рэдакцыі „Нівы" ў Беластоку пры вул. Сураскай 1 адбудзецца чарговы з'езд карэспандэнтаў. Пачатак спаткання а гадзіне 11.00.

Рэдакцыйныкалектыўвельмісардэчна запрашае на сустрэчу ўсіх тых, што пісалі, пішуць або намерваюцца пісаць у „Ніву".

**РЭДАКЦЫЯ**



*Дарога ў лесе.* **Фота А. Вярбіцкага**

## ПАСЛЯВЫБАРЧЫЯ ІМПРЭСІІ

Пасля кожных выбараў, якія адбываліся ў Польшчы па 1989 г., каментарыі прэсы наконт беларусаў — жыхароў Беласточчыны гучэлі амаль аднолькава і, карацей кажучы, зводзіліся да сцвярджэння: „скамунізаваная маса". Мы ў „Ніве" даўно ўжо заўважалі, што нягледзячы на рыторыку палякаў, яны таксама ў большасці з'яўляюцца сацыялістычным народам і ліберальныя эксперыменты ў гаспадарцы ім ужо надаелі. Выбары 19 верасня г. г. пацвердзілі гэты тэзіс. Яшчэ раз аказалася, што сялянскім народам больш адпавядае сацыялізм, чым лібералізм. Літва і Польшча — гэта краіны, якіх народы першымі ў дэмакратычны спосаб выказалі свае палітычныя сімпатыі. Можна спадзявацца, што неўзабаве такім шляхам пойдуць і іншыя ўсходнееўрапейскія грамадствы, можа за выключэннем чэшскага.

Што далей? Паводле ўсіх законаў логікі ў Польшчы нічога ў рашучы спосаб не зменіцца. Сацыялізм не вернецца па дзвюх прычынах. Па-першае: няма спрыяльнай міжнароднай атмасферы неабходнай да вяртання той сістэмы, якая існавала 45 гадоў пасля вайны і па-другое: палітыкаў, на якіх прагаласавала грамадства, спадзеючыся вяртання сацыялізму, зусім не цікавяць такія працэсы. Мы ўжо няраз пісалі, што гэта толькі грамадства засталося сацыялістычным, бо старыя эліты даўно ўжо ператварыліся ў незацікаўленых ніякай нацыяналізацыяй бізнесменаў. Іх эканамічныя праграмы ў рэчаіснасці больш ліберальныя, чым гэта здаецца грамадству.

Таму, відаць, Саюз левых дэмакратаў, хаця 19 верасня стаў гіганцкай сілай у Польшчы, не будзе надта імкнуцца ствараць урад, а калі б нават рашыўся на такі крок, з невялікімі зменамі рэалізаваць будзе цяперашнюю палітыку.

Другі з магчымых варыянтаў — гэта кааліцыя Дэмакратычнай уніі, ПСЛ, Уніі працы, ББВР. У выпадку такой канфігурацыі палітыка ўрада можа крышку змяніцца толькі ў адносінах да вёскі.

У ніякім выпадку, нягледзячы на тое, хто будзе пры ўладзе, не прападзе беспрацоўе, пенсіянеры не атрымаюць павышаных пенсіяў, настаўнікі і лекары большых зарплатаў, цэны тавараў не стануць ніжэйшымі. Адно толькі зменіцца — скончацца безупынныя гутаркі ў Сейме пра хрысціянскія вартасці, аборты і вандроўку нябожчыкаў з Захаду ў Польшчу. Праўдападобна, рашуча зменіцца таксама атмасфера ў Польшчы і вакол Польшчы — так як у чэрвені 1989 г.

**ЯЎГЕН МІРАНОВІЧ**

P. S. 21 верасня г. г. Беластоцкае радыё аб'віла вынікі выбараў у Сенат. Выглядае на тое, што беларускі электарат, які пайшоў на выбары, аддаў свае галасы на трэнера валейбола Яна Муляка з Варшавы, які выступаў як кандыдат СЛД. Трэба адзначыць, што на варшавяка не вялася тут ніякая прапаганда. „Адкуль такое зацікаўленне спортам у беларускім асяроддзі?" — задумоўваюцца мясцовыя каментатары.

# МЫ ПРАЧЫТАЛІ

*Warszawa. Kościół św. Kazimierza przy Chełmskiej. —Trzeba głosować na ludzi dobrych — ogłasza ksiądz po sumie. — A właściwe rady znajdziecie, kochani, w dwóch artykułach ze „Słowa-Dziennika Katolickiego”, które powieliliśmy i sprzedajemy przy wyjściu z kościoła za dwa tysiące złotych. Gdyby kogoś nie było stać na te artykuły, damy mu za darmo. Oczywiście artykuły w sposób bardzo delikatny mówią, na kogo głosować, ale wyciągnijcie właściwe wnioski.*

*(Gazeta Wyborcza, nr 215)*

**Відаць, артыкулы былі занадта далікатныя.**

* * *

*Ostatnio udało nam się sprzedać do Chin 4 tys. samochodów polonez. Kulisy tej transakcji przypominają stary dowcip o samochodach rozdawanych na Placu Czerwonym, gdzie niby wszystko prawda, ale chodzi nie o samochody, lecz o rowery, i nie rozdają, a kradną. No więc nie tyle sprzedaliśmy, ile wymieniliśmy w barterze: nie „do Chin”, a do specjalnej strefy ekonomicznej Shenzen; cena eksportowego poloneza jest niższa od ceny krajowej, w dodatku musimy w nich montować kosztowną klimatyzację... Jeśli jednak warszawska FSO jest z tego kontraktu zadowolona, pal sześć, niech wymieniają nawet na ryksze.*

*(Polityka, nr 97)*

Такая рыначная эканоміка існавала ў Польшчы і раней. Але наогул не было рынкаў. Так што тут — безумоўны прагрэс.

* * *

*Sensacji nie było. Wybory wygrali zgodnie z oczekiwaniem i sondażami socjaldemokraci...*

*(Gazeta Wyborcza, nr 216)*

Гэта — пра выбары ў Нарвегіі, як ні дзіўна...

* * *

*7 жніўня (верасня — рэд.) беларуская дэлегацыя падпісала ў Маскве пагадненне „Аб практычных мерах па стварэнні рублёвай зоны новага тыпу”. Згодна яму агульнай валютай у шасці дзяржавах, што падпісалі пагадненне, будзе расійскі рубель, эканамічную і грашова-крэдытную палітыку гэтых дзяржаў будзе каардынаваць Цэнтральны банк Расіі, які і будзе друкаваць грошы, межы будуць адкрытымі, без мытняў... Практычна, падпісаўшы гэтае пагадненне, беларускі ўрад падпісаў прыгавор суверэнітэту, незалежнасці сваёй дзяржавы. (...) Толькі ў чым правініліся беларусы перад Богам, што ім дадзены гэтакі пакутніцкі лёс? Чаму, прыгадаем У. Караткевіча, гэтай самай лепшай у свеце зямлёю кіруе самае горшае начальства?..*

*(Літаратура і мастацтва, н-р 36)*

* * *

*У аднаго з вядомых у Прыкарпацці фермераў рэкеціры ўкралі жонку. Факт у наш час не такі ўжо незвычайны, але дзіўна тое, што ў якасці выкупу яны запатрабавалі... самага лепшага быка са статка. Трэба аддаць належнае мужнаму фермеру — ён не стаў выпрабоўваць лёс, адразу згадзіўся на беспрэцэдэнтны бартэр.*

*(Звязда, н-р 171)*

Такое прыдараецца ў пераходны перыяд ад сацыялізму да капіталізму, калі на рынку няма валюты, і ўсе вымушаны займацца бартэрам.

* * *

*Хлопчыка назвалі Стасем — як бацьку. Сын — першынец! — з’явіўся ў сям’і беларускага паэта і журналіста Станіслава Пятровіча Шушкевіча 15 снежня 1934 года.*

*У драўляным доміку на ціхай мінскай ускраіне, дзе толькі зрэдзь часу разганялі курэй вазы ехаўшых пад чаркаю з кірмашу сялян, прагучалі традыцыйныя для такой падзеі тосты. Немаўляці і ягоным бацькам зычылі доўгага і шчаслівага лёсу. Каб заўжды светла і заможна жылося пад гэтым дахам, куды на агеньчык да вясёлага, кампанейскага гаспадара і гасціннай, ветліваай гаспадыні так любілі зазіраць шматлікія сябры — пераважна гэткія ж маладыя літаратары.*

*(Звязда)*

„Звязда” пачала друкаваць фрагменты мастацка-дакументальнай аповесці пра Станіслава Шушкевіча, цяперашняга старшыню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Гэтак аўтары будуюць імідж палітыка, тэарэтычна — найважнейшай асобы ў Беларусі. Ну што ж, і без гэтай аповесці было вядома, што беларуская палітыка нагадвае паданні і легенды з народнага фальклору...

* * *

*Parę dni temu zakończyło się tygodniowe Światowe Forum Prasy Polonijnej. Zorganizowali je: MSZ, Ministerstwo Kultury, Wspólnota Polska. Trochę grosza dołożyli sponsorzy. (...) Przypadkowe osoby, które znalazły się wśród zaproszonych na program nabity atrakcjami (zawody hippiczne, sztuczne ognie etc.) spowodowały, że o losie polskiej prasy, ukazującej się za granicami dyskutowano jedynie (...) po północy przy butelce.*

*— Funkcjonujemy w różnych światach — ocenili goście wschodni, tj. ci, którzy oczekiwali, że otrzymają w Polsce przysłowiową wędkę do połowu ryb. — Woleliśmy, żeby przyjęto nas w szałasie, trzymano dwa dni i na pożegnanie obdarowano choćby maszynami do pisania z polską czcionką — tłumaczyli.*

*Tymczasem „wywalono” miliard na hotel, bankieciki, atrakcje...*

*(Kurier Poranny, nr 181)*

## З мінулага тыдня

**Дзяржаўная выбарчая камісія** аб’явіла вынікі выбараў у Сейм. Найбольш галасоў атрымаў Саюз левых дэмакратаў — 20,4 прац. ПСЛ здабыла 15,4 прац., Дэмакратычная унія — 10,7 прац., Унія працы — 7,3 прац., Канфедэрацыя незалежнай Польшчы — 5,8 прац., Беспартыйны блок падтрымкі рэформаў — 5,4 прац. Астатнія партыі не дасягнулі пяціпрацэнтнага ліміту і не будуць мець сваіх паслоў у Сейме.

**На кандыдатаў Выбарчага камітэта Беларускага саюза ў Рэчыпаспалітай Польскай прагаласавала 10 164 чалавек.** Паводле меркаванняў палітычных аглядальнікаў існуюць шанцы, што прадстаўнікі нямецкай і беларускай нацыянальных меншасцяў апынуцца ў Сейме. Калі гэты нумар здаваўся ў друк, не было яшчэ афіцыйных паведамленняў Дзяржаўнай выбарчай камісіі ў гэтай справе.

З ліку адзінаццаці кандыдатаў у **Сенат** у Беластоцкім ваяводстве выйгралі выбары **Барбара Марыя Лэнкава** з Клуба каталіцкай інтэлігенцыі (атрымала яна 54 240 галасоў) і **Ян Муляк** з Саюза левых дэмакратаў (53 472 галасы). У Сенат не ўвайшоў кандыдат Выбарчага камітэта праваслаўных Яўген Чыквін, які апынуўся на трэцім месцы з 51 815 галасамі.

У першую гадавіну вяртання мошчаў **святога Гаўрыіла** ў Беласток па мясцоваму радыё прагучала перадача **Яна Смыка „Святога Гаўрыіла смерць для жыцця”**. Матэрыял да рэпартажа аўтар запісваў у Гродне (дзе раней захоўваліся мошчы) і на трасе шэсця з мошчамі ў Беласток. Перадача працягвалася звыш паўгадзіны і змяшчала ў сабе выказванні паломнікаў і царкоўныя спевы. Рэпартаж Яна Смыка належыць да жанру „feature”, у якім прымяняюцца журналісцкія і мастацкія элементы.

**IV сустрэчы з сакральнай музыкай і паэзіяй адбыліся ў Заблудаве.** Арганізатары заблудаўскіх спатканняў з хрысціянскай культурай (улады горада, каталіцкая і праваслаўная парафіі і Ваяводскі асяродак анімацыі культуры ў Беластоку) прапанавалі жыхарам мястэчка выставы фатаграфій, ікон і жывапісу, дэманстрацыю кінафільмаў, канцэрты фальклорных калектываў, сустрэчы з акцёрамі і паэтамі.

Саракагоддзе адзначае **Беластоцкі лялечны тэатр.** За гэты час Тэатр падрыхтаваў 183 прэм’еры і шаснаццаць тысяч спектакляў. Беластоцкія лялечнікі выязджалі на загранічныя гастролі ў Алжыр, Балгарыю, Францыю, Іарданію і Лівію.

У Белавежы адбываюцца **Міжнародныя мастацкія сустрэчы „Пагранічча — Белавежа’93”** з удзелам тварцоў з Літвы, Расеі, Беларусі і Францыі. Сустрэчам спадарожнічаюць імпрэзы і паказы, якія наблізяць мастакам асаблівасці рэгіёна, пакажуць багацце культуры, рэлігій і моў. Мэта сустрэчы — стварыць культурны мастацкі мост паміж Усходам і Захадам. Плён мастацкага пленэру можна будзе паглядзець на выставе ў Прыроднаясным музеі ў Белавежы.

**Дні Калінінграда** — трохдзённае гандлёвае мерапрыемства адбылося ў Беластоку. У яго ходзе калінінградскія вытворчыя фірмы прапанавалі свае тавары, ладзіліся гаспадарчыя кантакты, падпісваліся гандлёвыя кантракты. Выставе спадарожнічалі канцэрты расейскіх і польскіх калектываў.

**Гайнаўскія пажарнікі** ўжо трэці раз у гэтым годзе прымалі ўдзел у акцыі ліквідацыі няшчыльнасцей вагонаў, якімі перавозяць атрутныя хімічныя рэчывы. Апошнім часам з цыстэрны, якая стаяла на чыгуначнай ветцы паміж вакзаламі ПКП і ПКС у Гайнаўцы, пачаў выцякаць бензолсульфахларыд, а над цыстэрнай утварылася белае воблака. Прычынай уцечкі былі пашкоджаныя дзве шрубы люка, закрываючага цыстэрну, якая належала расейскай фірме, пастаўляючай у Польшчу хімікаты.

**На шашы Гайнаўка — Кляшчэлі** аўтамашына „мерседэс”, у якой ехалі тры мужчыны і дзве жанчыны — грамадзяне Беларусі, па невядомых прычынах з’ехала ў адкос. Адна жанчына памерла на месцы, другая — у шпіталі.

**У Відаве** 26-гадовы мужчына ударыў нажом у жывот 19-гадовага юнака. Паранены апынуўся ў бельскім шпіталі.

## ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ”

- ⇨ Чаму беларусы галасавалі на левых дэмакратаў.
- ⇨ **Феномен "прарока" Ільі з Грыбоўшчыны.**
- ⇨ Партызаны і жулікі.
- ⇨ **Звяз беларускай моладзі мае новага шэфа.**

# ВЕСТКІ З БЕЛАРУСІ

### ЗАБОЙСТВА ВАЯВОДЫ

20 верасня каля свае хаты быў застрэлены старшыня Абласнога выканаўчага камітэта Дзмітрый Арцыменя. Забіты быў народным дэпутатам Беларусі. Жыхарам нашага ваяводства вядомы ён як прыхільнік цесных гаспадарчых кантактаў Гродзеншчыны і Беласточчыны.

Ніхто пакуль што не ведае ні віноўнікаў злачынства, ні яго матываў. Вядома толькі, што Дзмітрый Арцыменя быў забіты выстралам з пісталета з невялікай адлегласці. На Беларусі гэта ўжо не першы выпадак забойства агульнавядомай асобы. У чэрвені г.г. у сярэдзіне дня ў Менску на вуліцы быў застрэлены дырэктар мінскага банка Лесянчук. Злачынцаў пакуль што яшчэ не злавілі. Так, як у суседніх краінах былога СССР — а асабліва ў Расіі — у Беларусі кантроль над гаспадаркай і фінансамі ў штораз большай ступені пераймае мафія. Гінуць людзі, а страляніна на вуліцы паказвае, хто і як вырашае праблемы, якія ёсць у кампетэнцыі суда, пракурора, паліцыі. Пагрозай у гарадах з’яўляюцца арганізаваныя групы „каўказцаў” і іншых, сярод якіх дамінуюць кланавыя сувязі. У такім стане разгублены грамадзянін нецярпліва чакае нейкага „збаўцы”, які прыйдзе і зробіць „парадак”. Дэмакратычныя ідэі для кожнага чалавека становяцца малаважнымі ў сітуацыі пагрозы бяспекі яго асобы.

Забойства Арцымені праўдападобна ўзмоцніць пачуццё пагрозы з усімі палітычнымі паслядоўнасцямі.

### ШУШКЕВІЧ НЕ РАЗВАЛІЎ САВЕЦКАГА САЮЗА

Адказваючы на пытанне японскага тэлежурналіста, страршыня Вярхоўнага Савета Беларусі Станіслаў Шушкевіч заявіў, што СССР як геапалітычная рэальнасць спыніў сваё існаванне. Абвінавачванне з боку камуністаў Ельцына, Краўчука і Шушкевіча ў тым, што яны, менавіта, ліквідавалі савецкую дзяржаўнасць, прэзідэнт Беларусі назваў хлуснёй. Ствараючы СНД, на думку Шушкевіча, прэзідэнты Расіі, Украіны і Беларусі захавалі астаткі супольнасці і пазбеглі югаслаўскага варыянту развіцця сітуацыі.

### БЕЛАРУСКІ „ЗАЙЧЫК” ПЕРАСТАЕ СКАКАЦЬ?

Як заявіў на прэс-канферэнцыі старшыня Нацыянальнага банка Беларусі Станіслаў Быданкевіч, беларуская валюта г.зв. „зайчыкі”, якія цяпер у крамах маюць вартасць 10 расейскіх рублёў, будуць праз нейкі час пералічвацца як 2:1, а пасля будуць поўнасцю ліквідаваны. Беларускую валюту цалкам мае заступіць расейскі рубель.

### РЭХА ПАСЛЯ СВЯТКАВАННЯ

8 верасня ў некалькіх гарадах Беларусі адбылося святкаванне 479 гадавіны перамогі войскаў Вялікага княства Літоўскага над дружынай маскоўскага цара пад Оршай у 1514 годзе. Пасля таго ў сродках масавай інафармацыі паявіліся абвінавачванні ў бок арганізатараў: Беларускага народнага фронту і Беларускага згуртавання вайскоўцаў, што яны імкнуліся выклікаць антырасейскія настроі сярод грамадства. Адказваючы ўрадавым прапагандыстам, намеснік старшыні БНФ Валянцін Голубеў падкрэсліў, што была гэта бітва з рускім царом, які стараўся захапіць беларускую зямлю, а не з рускім народам. 8 верасня — гэта свята ў памяць усім беларускім жаўнерам, якія змагаліся за свабоду Бацькаўшчыны, нягледзячы на тое, з якога боку прыходзілі агрэсары.

### З ДУХАМ ЧАСУ

На граніцы Баранавіцкага і Навагрудскага раёнаў пры ўездзе ў саўгас „Свіцязь” да гэтай пары вісеў лозунг „Слава КПСС”. Але, як вядома, час змяніўся, што заўважыла нават кіраўніцтва саўгаса „Свіцязь”. Доўга не думаючы, наменклатуршчыкі рашылі ісці з духам часу. Цяпер у месцы, дзе віднеў аграмадны лозунг на славу КПСС можна пабачыць такіх жа памераў надпіс: **„Слава Богу”**.

### ЗБРОІЦЦА, ХТО МОЖА

У Віцебску крымінальныя службы арыштавалі групу маладых жыхароў горада — пачынаючых „бізнесменаў”. Выраблялі і гандлявалі яны таварам, які ў краінах былога СССР знаходзіць шмат пакупнікоў. Кожны, хто адчуваў сябе не надта бяспечна або вымушаны быў афарміць нейкую важную справу, мог купіць у іх кулямёт, аўтамат, карабін, пісталет у некалькіх асартыментах. Калі не хапала ўласных запасаў, маладыя прадпрымальнікі набывалі зброю ў здэмаралізаваных афіцэраў аднаго з мясцовых гарнізонаў.

### ШЧЭРБУ АБАКРАЛІ СЯБРЫ

Пару месяцаў таму назад мы пісалі, што славутага беларускага чэмпіёна па гімнастыцы Віталя Шчэрбу зладзеі пазбавілі алімпійскіх узнагародаў, медалёў і іншай маёмасці вартасцю ў 27 тысяч долараў. 23 верасня закончыўся працэс зладзеяў, якія ўварваліся ў хату спартсмена падчас яго непрысутнасці. Сярод іх былі калегі Шчэрбы з гімнастычнай каманды Беларусі.

*Падрыхтаваў Я. М.*

### СПОВЕДЗЬ ПЕНСІЯНЕРА

*— Парай мне, як жыць*
*пры сучасных цэнах*
*з такой мізэрнай пенсіяй?*
*— Коратка.*

*(З сучаснага гумару)*

Ужо я цяпер
Мільянер.
Маю мільён
На трыццаць дзён.
Кватэра — семсот.
А што ж у рот?
Дарагія харчы.
Жывот — маўчы!
Калі б не жабрак —
Быў бы й сваяк.
Няма і сяброў
На рэшткі гадоў.
Маю тэлефон.
Спалучаў ён
Мяне дагэтуль
З вонкавым светам.
Тэлефон дарагі —
Лезу ў даўгі.
Няма чым плаціць.
Як тут жыць?
Як зваць у трывогу
Хуткую дапамогу?
Сказаць толькі маю:
Уміраю.
Ды як жа, паверце,
Без грошай памерці?

**Пенсіянер**

У Нараўчанскай гміне

## КРЫШТАЛЬ З КРАНА

У Нараўчанскай гміне ваду з крана маюць жыхары Нараўкі ды суседніх вёсак: Янава, Стачок, Свінарое і Заблоччына. Водаправодам карыстаюцца таксама жыхары вёсак, якія знаходзяцца на беразе вялікага вадасховішча „Семяноўка": Баравыя, Баб'я Гара, Семяноўка, Семенякоўшчына (Медзвядзі), Пасекі і Новая Лука.

Больш года маюць у сябе дома гэтую выгаду жыхары Старога Ляўкова і Новага Ляўкова. Крыху пазней ад іх пачалі падключаць у сваіх дамах ваду з водаправода падляўкоўцы і ахрымаўцы.

Зараз шпаркім тэмпам ідзе пабудова водаправода ў Плянце, якая знаходзіцца паабапал чыгункі з Гайнаўкі ў Цісоўку.

**(яц)**

# У БІЗНЕСЕ НЯМА САНТЫМЕНТАЎ

Набліжаецца канец года і неўзабаве некалькі мільёнаў уласнікаў аўтамашын будзе задумваацца, дзе застрахаваць сваю „цацку" ад няшчасных выпадкаў, пакражаў ды іншых непрадбачаных здарэнняў. Яшчэ два гады таму назад усе яны глядзелі з аптымізмам на будучыню ў гэтай галіне. Дзесяткі фірмаў прапанавалі свае паслугі, заахвочваючы кліентаў штораз меншымі страхавымі ўзносамі і большымі кампенсацыямі страт. Недзе год таму, калі збанкрутавала „Вэста", на рынку ў рэчаіснасці засталіся дзве фірмы: ПЗУ і „Варта", пад якіх катролем каля 90% усіх страхавых кантрактаў. Усе іншыя — як гаворыцца ў свеце бізнесу — „эфемерыды", якія існуюць больш для дэкарацыі рынку, а асабліва, каб сведчыць пра свабодную канкурэнцыю ў гэтай галіне гаспадарчай дзейнасці.

У Беластоку 13 верасня, у памяшканнях Беластоцкага радыё сваю прэс-канферэнцыю арганізавала кіраўніцтва Страхавага таварыства „Варта". Фірма ў мінулым перш за ўсё займалася страхаваннем дзейнасці польскіх фірмаў за межамі дзяржавы. Цяпер замежная актыўнасць польскіх прадпрыемстваў рэзка абмежавалася і таму лік яе кліентаў рашуча зменшыўся. Сітуацыя прымусіла шукаць даходаў у дзейнасці на ўнутраным рынку. Банкруцтва „Вэсты" вельмі дапамагло зрабіць тут першыя крокі, і за апошні год „Варта" захапіла 17—19% страхавых кантрактаў, у тым амаль палова гэта страхоўкі аўтамашын. На сустрэчы з журналістамі прэзас акцыянернага таварыства „Варта" Анджэй Вайтанскі даказваў, што фінансавая кандыцыя яго фірмы знакамітая і не пагражае ёй тое, што сталася з „Вэстай". Большасць грашовых запасаў „Варта" трымае ў банках, выкарыстоўваючы ўсе магчымачсці, каб толькі абаротамі капіталу яго павольшваць. „Вэста" свае запасы фінансавых сродкаў інвеставала ў дзейнасць, якая магла даць прыбытак праз некалькі гадоў, а калі раптоўна спатрэбіліся наяўныя грошы, іх не было пад рукою.

Як паясняў прэзас Анджэй Вайтанскі, нідзе ў свеце няма ніякага плюралізму на страхавым рынку. Заўсёды дзейнічаюць 2—4 фірмы, якія маюць поўны кантроль, і якія маюць паміж сабой акрэсленыя дамоўленасці. Канкурэнцыя тут ілюзорная. Было так, напрыклад, пару гадоў таму ў Аўстраліі, дзе як грыбы пасля дажджу ўзнікалі асекурацыйныя фірмы, але гіганты, у якіх быў запас грошай, рашуча абнізілі свае ўзносы. Цераз год канкурэнцыя была знішчана, а страхоўка пайшла ўверх у некалькі разоў. Вялікія фірмы забралі ў два разы тое, што патрацілі ў барацьбе з канкурэнтамі. У Польшчы — гаварыў прэзас Вайтанскі — да канца гэтага стагоддзя будзе дамінаваць ПЗУ у поўнасці з дзяржаўным капіталам і другая фірма з мешаным капіталам — „Варта". Усе іншыя будуць існаваць у неабмежаванай колькасці, займаючы 5—10% рынку, упрыгожваючы наш бізнес „свабодай канкурэнцыі". Такі другі план свабоднай канкурэнцыі выступае менш-больш у кожнай капіталістычнай дзяржаве.

На сённяшні дзень найбольшай крыніцай даходаў з'яўляецца страхаванне аўтамабіляў. Адначасна гэта даволі рызыкоўная дзялянка ў дзейнасці фірмаў, у якіх няма фінансавых запасаў. Ва ўсім свеце праблема нумар адзін на гэтым рынку — гэта пакража самаходаў. Нават там, дзе паліцыя працуе аператыўна, няма ніякіх шанцаў, каб абмежаваць гэты від злачыннасці. Няма цяпер ніякіх метадаў ні сістэмаў аховы машын, якіх зараз не расшыфравалі б зладзеі. Усялякія аўтасігналізатары — паводле шэфа „Варты" — патрэбны толькі дзеля таго, каб уласнік мог спакойна спаць, але гэта не абазначае, што раніцай напэўна пабачыць ён свой аўтамабіль.

Ніводная страхавая фірма не плаціць кампенсацыі паводле сумы пазначанай у кантракце, а толькі паводле рынычнай цаны застрахаванай маёмасці. Напрыклад, свой дом застрахуем на 500 мільёнаў злотых, але калі нам яго знішчыць агонь ці вада, атрымаем толькі 300 мільёнаў. Паводле каталогавых цэнаў яго вартасць — напішуць — 400 мільёнаў, адкінуць яшчэ 100 з увагі на амартызацыю. Няма сэнсу затым страхаваць на суму большую чым вартая наша маёмасць. Гэта заўвага перш за ўсё датычыць самаходаў.

Набліжаецца тэрмін плаціць абавязковую страхоўку ад сродкаў транспарту. Выглядае гэта так, што вялікага выбару не будзе. Заплацім столькі, колькі нам скажуць манапалісты.

**Я. М.**

## БУКЕТ З НАДМАГІЛЬНЫХ КВЕТАК

Людзі цяпер сталі такія, што нічога не ўшануюць. Газеты часта інфармуюць аб чарговых выпадках святатацтва. Гінуць не толькі іконы з цэркваў, але нават... кветкі з могілкаў. Вось, прыклад з „майго панадворка".

Мая маці пасадзіла навесну ля магілы свайго мужа астры. Дагледала іх усё лета. Але кветкі нядоўга ўпрыгожвалі святое нам месца. Вось, каля пачатку новага школьнага года нейкі паганец зрэзаў усе астры, нават тыя маленькія, якія яшчэ не падыходзілі ў букет. Цікава ведаць, ці нехта з настаўнікаў, у якога рукі, мабыць, трапілі гэтыя кветкі, уявіў сабе, адкуль яны?!

Такія выпадкі, як вышэйапісаны, у Белавежы, на жаль, здараюцца штораз часцей. Ды не толькі тут! Вось дажылі мы часоў!

**ПЁТР БАЙКО**

## АБ'ЯВЫ

24 кастрычніка 1993 г. у памяшканні Беластоцкай філармоніі цырульніцкія фірмы: нямецкая „Лонда" і польская „Поль-фрыз" арганізуюць паказ умельства майстроў цырульніцкай справы. Пры нагодзе адбудзецца таксама дэманстрацыя хімічных прэпаратаў, выкарыстоўваемых для ўкладання, раз'яснення і фарбавання валасоў.

Суарганізатар імпрэзы — „Польфрыз" запрашае прыняць удзел у паказе моладзь, якая можа стаць удзельнікам конкурсу „маладых талентаў".

Дэталёвыя інфармацыі можна атрымаць у сядзібе фірмы „Поль-фрыз" у Беластоку, пры вул. Ліповай 19/21, тэл. 288—51

* * *

9—10 кастрычніка 1993 г. адбудзецца III з'езд выпускнікоў Эканамічнага тэхнікума і ліцэя ў Бельску-Падляшскім. Зацікаўленыя з'ездам за больш падрабязнымі інфармацыямі могуць звяртацца ў сакратарыят школы ў Бельску-Падляшскім, вул. Відоўская 1, тэл. 27—21.

З народнай абраднасці

# „ЦЯЧЭ ВАДА Ў ЯРОК"

Як каму, але мне лета асацыюецца з вадой — у рэчках, у моры, у калодзежы. Праўда, у гэтым годзе не давялося мне так сапраўды пакупацца, нават у Нарве, Арлянцы ці заліве, але пра ваду магу расказаць многа цікавага.

Нашыя продкі жылі ў адвечным страху перад сіламі прыроды, перад злымі духамі, ваўкалакамі і чараўніцамі. Ад вялікай небяспекі людзі мусілі абараняцца, і таму ўзнікла вялікая колькасць разнастайных „абярэгаў", „ачышчэнняў". Такую ачышчальную моц мела і вада. У гэта верылі ўсе народы свету. У старажытным Рыме святкавалі дзень нараджэння бога Сонца, падчас якога блаславўлялі ваду. У дзень Багаяўлення ў еўрапейскіх краінах было прынята купацца ў рэках. Нават дзеля таго ў замёрзлых крыніцах рабілі спецыяльныя палонкі. І ў англічан было шырока распаўсюджана павер'е, што ў ноч пад Новы год вада ў рэках набірае цудоўнай моцы, якая добратворна ўплывае на чалавека.

Веснавая вада мела таксама магічную гаючую сілу. Успомнім хаця б паслявелікодны абрад палівання вадой, які дадаваў сілы мужчынам, а дзяўчатам — прыгажосці і пладавітасці. Асаблівае значэнне прыпісвалася расе. Маёвай расой апырсквалі жывёл, а дзяўчаты імкнуліся на світанку ўмыцца, каб быць прыгожымі. Увесь Купальскі абрад быў цесна звязаны з вадой. Дзяўчаты, сплёўшы вяночкі, клалі іх на ваду або кідалі далёка ад берага. Хлопцы, не чакаючы, кідаліся за імі, каб вылавіць вянок той, якая найбольш падабаецца, а тым самым пацвердзіць варажбу дзяўчыны аб сваім каханым. На Купаллі хлопцы таксама абліваліся вадой, каб яе чароўная моц паўплывала на іх мужчынскія сілы.

У хрысціянстве свянцоная вада мае гаючую сілу, абараняе ад хвароб і ўсяго злога. Вялікую моц мае пасхальная вада. Яе дабаўлялі да велікодных страў, а рэшткамі аблівалі дом. У Германіі жанчыны, каб пазбавіцца бясплоднасці, пілі з крыніцы, вада якой лічылася асвячонай. Вада можа вылечваць ад усіх бед і няшчасцяў. Існуюць замовы, у якіх вада змывае мінулае, дае забыццё, вылечвае ад суму і гора, ад суроках і хваробы, дае прыгажосць, асабліва тады, калі ў чарку ўсыпаць нейкага таямнічага гаючага зелля. Нездарма спяваюць:

*Ёсць у мяне тое зелле*
*блізка пералазу,*
*як дам табе напіціся,*
*забудзеш адразу.*

З вадой звязаны цыкл жыцця чалавека. Яна паяўляецца пры нараджэнні дзіцяці, яго ініцыяцыі, у вясельным і пахавальным абрадах.

Адной з форм існавання вады ў нашай абраднасці ёсць шырокае распаўсюджанне сюжэта пераходу праз раку, мора. Вада выконвала ролю мяжы, праз якую трэба кожнаму чалавеку прайсці некалькі разоў у сваім жыцці, каб быць паўнацэнным. Вада таксама адлюстроўвае падзямелле — „свет мёртвых". Сімвалічны перавоз праз раку шырока сустракаецца ў радзільнай паэзіі. Муж пераводзіць жонку па дубовай кладачцы праз мора: гэта трэба разумець як пераход замужняй жанчыны ў новы стан — ад маладухі да парадухі:

*Чэрэз морэ досачка*
*дубова ляжала, —*
*Ніхто по ёй не перайшоў:*
*Одзін Міхасько перайшоў.*
*Жану свою переве́ў.*
*Жана моя, жоначка,*
*Парадзі сыночка.*

У вясельнай паэзіі рака становіцца мяжой, якая раздзяляе да- і пасляшлюбныя формы існавання нявесты. Перавоз праз раку робіць заўсёды сам жаніх:

*— Перавязі мяне з сабой*
*цераз быстру воду.*
*— Я цябе перавязу,*
*каб маці не тужыла.*

У вядомай усім песні спяваецца:

*Цячэ вада ў ярок,*
*кладачку заняло.*
*Кладачка тонелька,*
*вада халодненька,*
*а я малодзенька.*

Тут выразна дзяўчына баіцца перайсці праз халодную рэчку. Яна яшчэ замаладая, каб выйсці замуж, як ёй здаецца.

На саракавы дзень пасля пахавання праводзілі душу на Забыць-раку. Пахавальны абрад называўся трызнай. Падчас яго адбывалася абрадавае паліванне магілы, што было сімвалам хуткага пераходу чалавека ў іншы свет. Узліванні вадой маюць розныя эквіваленты: паліванне крывёй, віном, слязамі, „жывой вадой". Слёзы, якія ліюцца на магілу павінны былі не проста падтрымаць існаванне нябожчыка, але садзейнічаць яго ўваскрэсенню. У сірочай песні спяваецца:

*Замкнуўся татачка ў тры замочкі (...)*
*Прайдзіця, прайдзіця, дробныя дажджы,*
*Размыйця, размыйця жоўты пясочак.*

У казках і песнях слёзы заўсёды добратворныя, яны абуджаюць, ажыўляюць нябожчыка. Бывае, што слёзы перашкаджаюць памёршаму, непакояць, турбуюць яго. Сэнс іх зводзіцца да таго, што нябожчыкаў не трэба аплакваць. Слёзы родных не даюць ім спакою ў магіле, яны клічуць іх да зямнога жыцця, а ад таго нябожчык не можа адказаць, слёзы пякуць і раняць яго.

У казках часта героя, які спіць, спачатку як бы зусім забіваюць з дапамогай мёртвай вады (яна нібыта замяняе сабой пахавальны абрад) і толькі потым ажыўляюць. Сэнс існавання жывой і мёртвай вады гаворыць аб тым, што нельга ажывіць не да канца памёршага. Нельга атрымаць „жывую ваду", калі не выпрабаваць уздзеянне „мёртвай". Такую функцыю „жывой вады" выконвае кроў або віно.

У вельмі цікавым абрадзе ініцыяцыі маладых хлопцаў мазалі крывёю. Кроў — сімвал жыцця, дае сілу і мужнасць. Яна сімвалізуе сувязь усіх мужчын племені з міфічнымі родавымі продкамі. Перад вяртаннем у вёску, пасля цяжкіх выпрабаванняў адбываўся абрад аблівання вадою. Інакш сляды, якія засталіся пасля абраду ініцыяцыі, магілі заўважыць тыя, каму нельга было бачыць і ведаць усяго, што ведаюць дарослыя мужчыны.

**АЛЬЖБЕТА ТАМЧУК**

# ФАБІЯН АКІНЧЫЦ І ЯГОНЫ ЛЁС

### ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

Пасля разгону Грамады польскія ўлады хацелі некаторымі дзеяннямі змякчыць нездавальненне беларускага грамадства. Ужо ў 1930-ым годзе па асабістаму загаду Ю. Пілсудскага распачынаецца выхад правадыроў партыі з турмаў. Чым кіраваўся Пілсудскі, рашаючыся на такі крок у дачыненні да кіраўніцтва найбольшай у свой час партыі з усіх нацыянальных меншасцяў? Ён ведаў, што маючы ўладу ў краіне ўжо больш не дапусціць да ўзнікнення беларускага руху ў такім маштабе, а кожная падобная з'ява будзе знішчана адразу ў зародку. Пілсудскі дакладна арыентаваўся ў тым, што ў Савецкай Беларусі распачалася драма беларускага народа — знішчанне таталітарнай сістэмай усіх форм нацыянальнага жыцця. У такой сітуацыі, выпускаючы на свабоду кіраўнікоў БСРГ ясным было, што іх далейшая дзейнасць з мэтай вырашыць беларускую справу з дапамогай Менска, раней ці пазней, закончыцца поўнай кампраметацыяй у вачах беларускага палітычнага актыву. Уся іхняя праца была б толькі рэалізацыяй камуністычных, а не нацыянальных інтарэсаў.

Перад Тарашкевічам, Бурсевічам, Мятлою, Ракам-Міхайлоўскім, Валошынам і Акінчыцам узнікне праблема выбару месца далейшай сваёй дзейнасці. Унутранныя хістанні прыспешылі рашэнне Камінтэрна, які загадаў камуністычнаму кіраўніцтву партыі пераехаць у Савецкі Саюз. Такое вырашэнне праблемы адпавядала Пілсудскаму; у Польшчы яны былі б абмежаваныя ў сваіх правах, выязджаючы — аслаблялі б беларускі палітычны патэнцыял. Выезд часткі актыву Грамады паглыбіў працэсы дэзінтэграцыі і сварак паміж паасобнымі беларускімі арганізацыямі. Польскім уладам у такой сітуацыі аставалася толькі цешыцца.

У час прабывання Акінчыца ў турме, на пераломе 1929/1930 г. на беларускай палітычнай сцэне найважнейшую ролю адыгрывалі тры ўзаемаваюючыя групоўкі: Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД), Беларускі сялянска-работніцкі пасольскі клуб „Змаганне" і Цэнтрасаюз — група Радаслава Астроўскага і Антона Луцкевіча. У сувязі з уступленнем Акінчыца да гэтай апошняй арыентацыі варта сказаць некалькі слоў пра праграму гэтага руху, называнага часта „беларускай санацыяй". У выдадзеным 12 снежня 1929 года першым нумары часопіса „Наперад" чытаем, што галоўнай мэтай групы мае быць яднанне ўсіх беларускіх сілаў на грунце пазітывістычнай, культурна-асветнай працы, шляхам легальнасці дачыненняў да польскай дзяржавы. Мэтай „беларускай санацыі" была спроба прыцягнуць да палітычнай дзейнасці як найшырэйшыя кругі актыўнага (грамадска і палітычна) беларускага асяроддзя. Будучыню сваіх дзеянняў група Луцкевіча бачыла ў стварэнні новага камітэта ўсіх беларускіх арганізацыяў, які знаходзіўся б у апазіцыі да Беларускага нацыянальнага камітэта, існуючага ў сферы БХД. 19 ліпеня 1930 г. Акінчыц як апошні з прыгавораных грамадоўцаў, пакідае муры турмы, і ў адрозненні ад сваіх сяброў з кіраўніцтва Грамады не рашаецца выязджаць у Савецкі Саюз, хаця атрымоўвае такія прапановы. Ён, безумоўна, са свайго жыццёвага вопыту ўжо ведае, да чаго здольныя камуністы (пазнейшы лёс правадыроў партыі быў адзін — іх чакала смерць з рук „товарищей"). Не менш важнай прычынай уступлення Акінчыца ў рады Цэнтрасаюза былі ягоныя палітычныя меркаванні наконт становішча беларускага пытання, якія супадалі з поглядамі Астроўскага і Луцкевіча. Вядома, што і палітычныя амбіцыі не дазвалялі яму стаяць з боку адбываючыхся здарэнняў. Таму адразу прыступае ён да працы ў рэдакцыі часопіса „Наперад", каб неўзабаве стаць яго галоўным рэдактарам. У сувязі з планаванымі на лістапад 1930 г. выбарамі ў Сейм, Цэнтрасаюз рашаецца прыняць у іх удзел. Старшынёю выбарчага камітэта выбіраюць Акінчыца. Тэрмін выбараў прыспяшае кансалідацыю групы. 27 і 28 верасня 1930 года ў Вільні праходзіць з'езд Цэнтральнага саюза беларускіх арганізацыяў і культурна-асветных установаў.

У склад Галоўнай рады быў выбраны Акінчыц, які супольна з Луцкевічам і Астроўскім кіравалі працамі з'езда. У выступленнях сваю ўвагу засяродзіў ён на эканамічна-гаспадарчых праблемах беларускай вёскі. Адным са спосабаў ратунку для сялянства мела стаць кааперацыя. Выбягаючы ўперад трэба сказаць, што ў сваёй публіцыстычнай і палітычнай дзейнасці Акінчыц вельмі моцна падкрэсліваў значэнне такой формы гаспадаркі, а ў 1936 годзе выйдзе з друку ягоная праца „Аграрна-коопэратыўная палітыка будучыні". У Цэнтрасаюзе Акінчыц будзе галоўным экспертам па гаспадарчых пытаннях. На з'ездзе ў 1930-ым годзе запрапануе ён адкрыццё кааператыўных курсаў для сялян і стварэнне Беларускага кааператыўнага банка ў Вільні. Да выбараў 1930-га года пойдуць беларускія арганізацыі разбітымі на паасобныя выбарчыя спіскі. Хаця паміж групай Луцкевіча (прадстаўніком якога быў Акінчыц), БХД і Беларускім сялянскім саюзам вяліся перамовы ў справе стварэння блока, але была гэта толькі палітычная ігра. З прычыны ідэалагічных розніц, а таксама асабістых амбіцыяў кампраміс быў немагчымы. Памятаючы аб атмасферы выбараў, якой спадарожнічала фальшаванне спіскаў і рэпрэсіі з боку адміністрацыйных уладаў у дачыненні да апазіцыі, выбарчая катастрофа беларускіх груп не была неспадзяванкай. Калі ў выбарах 1928 г. беларускія спіскі атрымалі разам 235 545 галасоў, дык у гэтых выбарах на беларускія спіскі загаласавала толькі 21 889 людзей. Цэнтрасаюз атрымаў 12 359 галасоў, Беларуска-ўкраінскі блок — 7 513, спісак Незалежных радыкалаў — 1 929. Спіскі левага „Змагання" былі прызнаныя ўладамі няважнымі яшчэ перад галасаваннем. З выбарамі 1932 года спалучаецца таксама і дэструкцыйная роля Браніслава Тарашкевіча. У апошніх днях перад выбарамі на ўсёй тэрыторыі Заходняй Беларусі з'явіліся лістоўкі адрасаваныя „Да рабочых, сялян і ўсіх працоўных Заходняй Беларусі", падпісаныя Тарашкевічам, які знаходзіўся тады за мяжой. У лістоўцы заклікаў ён беларусаў галасаваць на няважныя спіскі „Змагання" ў імя інтэрнацыяналістычнага блока. Пры нагодзе заклікаў ён байкатаваць іншыя беларускія выбарчыя спіскі. Лістоўку канчалі словы: „Далоў з беларускай фашыстоўскай бандай Луцкевічаў, Астроўскіх, Акінчыцаў, Крукаў, Каралёў, Міцкевічаў, Ярэмічаў, Рагуляў, кс. Станкевічаў, Стэповічаў, Юхневічаў і іх спіскаў". Адозва дала вынікі. У вачах грамадства Тарашкевіч быў змагаром за беларускія справы, не ведала яно толькі пра ягоную дыспазіцыйнасць для камуністаў. Дэструкцыйныя намеры Камінтэрна да існуючага беларускага палітычнага руху дасягнулі сваю мэту. У сувязі са справай Тарашкевіча ў лютым 1931 г. паявілася першая публіцыстычная праца Ф. Акінчыца „Чаму так сталася. Да справы выезду за граніцу былых правадыроў Грамады". У гэтай працы кіраўніцтву партыі, якое ўцякло за мяжу, закідае Акінчыц палітычную памылку і здраду беларускай нацыянальнай справы. Далей ён трапна прадбачыў будучыню актыву Грамады: „Над імі заўсёды будзе вісець падазронасць у нацыянал-дэмакратызме. У Саветах іх могуць толькі цярпець і пры першай магчымасці іх пастараюцца ўсунуць куды-небудзь у цень, выкарыстоўваючы першапачаткова іх асабістыя вартасці як грамадоўцаў, адцярпеўшых цяжкія кары ў польскіх вастрогах". Вельмі выразнымі з'яўляюцца ягоныя заўвагі наконт камунізму і камуністычнай партыі: „Я не веру ў нейкае перараджанне камуністычнае партыі ў бок дэмакратызму. Яна, па-майму перакананню, мусіць згінуць цалкам, ачысціўшы дарогу для стварэння новых, здаровых сацыяльна-палітычных формаў у колішняй Расеі... Я пераканаўся, што беларускае пытанне можа быць вырашана толькі тады, калі прападзе тая галоўная перашкода, якая стаіць на дарозе да яго вырашэння — гэта факт існавання камуністычнай дыктатуры ў Савецкай Беларусі". У брашуры, апрача закідаў у бок былых паслоў, Акінчыц выкладае свае палітычныя погляды, якім быў верны ў 1930-1932 гадах. У гэтым часе верыць ён у палітыку кампрамісу з польскімі ўладамі і адраджэнне нацыянальнай справы шляхам арганічнай працы ў беларускім грамадстве. Аднак, калі зразумее, што польскія ўлады імкнуцца знішчыць не толькі КПЗБ, але і іншыя палітычныя плыні, Акінчыц пяройдзе на антыпольскія пазіцыі. Пакуль гэта наступіць, падыме ён спробу стварыць уласную абсалютна лаяльную паланафільскую групу.

*Працяг будзе.*

**ЯЎГЕН ВАПА**




## КАЛІ ЎРОКАЎ ГІСТОРЫІ МАЛА?

Я, як радавы беларускі абывацель, хачу выказаць сваё меркаванне аб ініцыятыве Старшыні Саўміна Беларусі і прынятым большасцю Вярхоўнага Савета рашэнні заключыць з Расіяй (і некаторымі іншымі дзяржавамі СНД) эканамічны і ваенны саюз.

Перш-наперш, насцярожвала тое, што ініцыятарам гэтага саюзу стаў Саўмін Беларусі, той самы Саўмін, які за часы свайго існавання ні ў чым сябе не праявіў.

Па-другое, калі і Расія, і Беларусь сталі на шлях рыначнай эканомікі, дык як зможа ўрад Расіі прымушаць свае прадпрыемствы прадаваць Беларусі ці беларускім прадпрыемствам тавары ці сыравіну танней, чым яны маглі прадаваць іх, напрыклад, Літве?

На сённяшні дзень становіцца ўсё відавочней, што пры разліках за прадукцыю ці сыравіну паміж прадпрыемствамі ўсіх дзяржаў цэны будуць устанаўлівацца сусветныя і падарункаў адны дзяржавы рабіць другім не будуць.

Але, не маючы ніякага стратэгічнага плана вываду нашай эканомікі з тупіка, Саўмін хапаецца за саломінку і, разлічваючы на нейкую расійскую ін'екцыю ў эканоміку Беларусі, гатоў аддаць ёй у абмен за гэта наш суверэнітэт.

Па-трэцяе, калі зазірнуць у гісторыю, то што даў Беларусі саюз (калі можна так сказаць) з царскай Расіяй, а потым з Савецкай Расіяй? Украіна, напрыклад, ад такога саюзу з Расіяй атрымала, дзякуючы расійскай зброі, мабыць, каля 1/3 сваёй тэрыторыі. А за тое, што Беларусь на працягу 200 гадоў пастаўляла ў расійскую армію сваё гарматнае мяса для пашырэння Расійскай Імперыі, Масква аддзякавала тым, што адабрала ў Беларусі 1/3 тэрыторыі і выкарыстоўвала яе як разменную манету ў палітычных таргах з Польшчай і Літвой, ды і сябе не пакрыўдзіла, прылучыўшы Смаленскую вобласць. Хіба гэтага ўрока гісторыі на сённяшні дзень для Беларусі мала?

Па-чацвёртае, хто нам пагражае сёння, чаму нам так стаў патрэбен гэты саюз? Пагроза, як правіла, зыходзіць ад суседніх дзяржаў. У нас пяць суседзяў: Расія, Украіна, Польшча, Літва і Латвія. Ад якой з гэтых пяці краін хутчэй за ўсё мы можам чакаць пагрозы і дзеля чаго мы ўвогуле ўтрымліваем сваё даволі вялікае войска? Літва і Латвія адпадаюць. Застаюцца Расія, Украіна і Польшча. І гэтую пагрозу з боку трох дзяржаў я падзяліў бы, улічваючы многія фактары гістарычнага, ваеннага, культурнага і іншага характару такім чынам: Расія — 70%. Польшча — 20%, Украіна — 10%.

Дык вось, атрымліваецца, што калі гаварыць аб ваенным саюзе Беларусі, то трэба яшчэ добра падумаць, з кім і супраць каго нам неабходна сёння заключаць такі саюз.

Па-пятае. Якія ж адносіны збіраюцца будаваць наш Саўмін і абрусела-кампартыйная большасць Вярхоўнага Савета з астанімі суседзямі, заключаючы ваенны саюз з Расіяй?

Як будуць глядзець пасля гэтага на Беларусь на Украіне, у Польшчы, у Літве і Латвіі, ды і ў іншых краінах? Як на незалежную нейтральную дзяржаву ці як на мілітарызаваны дамініён Расіі, з тэрыторыі якога будзе зыходзіць пагроза іх незалежнасці?

**ІВАН МАЛЫШКА**

*„Народная газета", н-р 115.*

# КАМУ І НАВОШТА?

Гэта было пару дзесяткаў гадоў таму назад. Гасцяваў я ў свайго дзядзькі ў Пінску. Выехаў ён з Беласточчыны зараз пасля вайны, шукаў шчасця па ўсім Савецкім Саюзе, наканец спыніўся ў Пінску. Раю нідзе не знайшоў, лёгкага жыцця не дачакаўся. Часта паўтараў: „Каб жыць бліжэй Беласточчыны, бліжэй сваіх".

Памятаю, выйшлі мы на шпацыр па Пінску, ідзем на плошчу Перамогі. Плошча са званнем „перамогі" ёсць амаль у кожным горадзе ў Беларусі. У цэнтры плошчы стаяў з паднятай рукой манументальны Ленін, правадыр бальшавікоў. Упершыню я бачыў, як маладыя пары пасля вянчання перад савецкімураднікам прыязджалі туды і ўскладалі кветкі да бетоннага пастамента, на якім стаяў металёвы правадыр.

— Чаму яны гэта робяць? — пытаю дзядзьку. — Хто ён такі, каб яму кветкі даваць?

— Не гавары голасна, так іх навучылі, — адказаў дзядзька.

— Лепш бы ў царкву пайшлі, там павянчаліся б, Богу падзяку склалі, — сказаў я.

— Пачакай, Грыша, прыйдзе і на гэта час, — пацешыў мяне дзядзька. — Рэлігію тут патапталі, праўду стараюцца задушыць. Паглядзі, што зрабілі з цэрквамі. Купалы паздымалі, пераўтварылі ў склады тавараў, кінатэатры, кафейныя, месцы гульняў для моладзі. А гэта ўсё пачалося з яго загаду, — дзядзька паказаў пальцам на помнік Леніну. — Але ўсё шаленства калісь канчаецца. Праўда калісь і так выплыве наверх.

Дзядзька гаварыў шмат, але ўсё разглядаўся па баках. „Я не дачакаю гэтага, — прадаўжаў. — Ты дачакаеш напэўна". Калі я спытаў, ці ён у царкву ходзіць, у адказ пачуў: „Хацелася б, але не магу. Да пенсіі яшчэ ж пару гадоў. Калі будзеш у царкве, паглядзі ўважліва, колькі там малойчыкаў круціцца".

Быў я ў царкве і бачыў усё тое, пра што гаварыў дзядзька. Нягледзячы на кантроль рэлігійнага жыцця з боку дзяржаўнай бяспекі, людзі хадзілі ў царкву, маліліся і чакалі лепшага часу. Дзядзька не дачакаў. Памёр у Беларусі. Няхай яму зямля лёгкай будзе. Ён аднак меў рацыю — праўду нельга схаваць. Развалілася нечалавечая сістэма. Шмат яшчэ трэба зрабіць, каб вярнуць усю праўду ў нашу свядомасць. Трэба друкаваць больш такіх артыкулаў, як „Д'яблы", каб вылечыць людзей з адурманенасці і захаплення камунізмам. Страшна робіцца, калі падумаеш, што столькі невінаватых людзей загінула ў выніку шаленстваў пазбаўленых чалавечых душаў бальшавікоў, але яшчэ больш сумнае тое, што дзяцей ахвяраў выхавалі яны так, што тыя нясуць кветкі да помнікаў катаў іх бацькоў. Добра, што „Ніва" надрукавала артыкул Пазняка. Такіх тэкстаў трэба нам больш, каб праўда дайшла да паўсюднага ведама.

**ГРЫША МАРОЗ**

## ДРУГІ ЎСЯЛЕНСКІ САБОР У ЭФЕСЕ Ў 449 г.

Перамір'е паміж папам Александрыі Кірылам і епіскапам Азіі ўтрымалася 15 год. Нестар заснаваў у ссылцы сваю Царкву, якая разышлася па Азіі. Нестарыянскія цэрквы паўсталі ў Персіі, Індыі, а нават у Кітаі. Яны існуюць яшчэ да гэтай пары. Халдзейская царква ў Іране — нестарыянская, бо прызнае, што Хрыстос меў дзве натуры: боскую і чалавечую. Частка халдзеяў мае унію з Рымам. Усе яны маюць свае царкоўныя абрады, і набажэнствы вядуцца на новаарамейскай літургічнай мове. Царква св. Фамы ў Індыі таксама нестарыянская. Калі ўвайшлі туды партугальцы, то пачалі прымушаць іх прыняць каталіцызм па загаду рымскіх папаў Калікста (1445—1468), а пасля Кліма (1592—1605). Не ўсе аднак паддаліся партугальскім ксяндзам і, калі ў 1663 годзе ўвайшлі ў Індыю галандцы і выгналі партугальцаў з Малабары, Нестарыянская царква адрадзілася і існуе да сёння.

Пасля смерці Кірылы ў 444 г. у Александрыі паявіўся больш грозны яго наследнік Дыяскор (444-451), які востра выступіў супраць канстанцінопальскага патрыярха Флавія (446—449). Прычынай гэтаму стаў папулярны ігумен аднаго з манастыроў у Канстанцінопалі — Яўціхій. У сваіх пропаведзях ён сцвярджаў, што чалавечая натура Хрыста была паглынута Яго боскай натурай. У 448 г. патрыярх Флавій склікаў мясцовы з'езд епіскапаў, на якім асудзілі Яўціхія і выкінулі яго з манастыра. Яўціхій напісаў пісьмо да папы рымскага Льва І (440—461) з просьбаю дапамагчы яму. Флавій, хаця не разлічваў на падтрымку рымскага папы, які заўсёды варожа адносіўся да Канстанцінопаля, выслаў яму пісьмо і пратакол з'езда. Як Флавій спадзяваўся, папа Рыма ўзяў у абарону Яўціхія і выступіў супраць Флавія. Ён напісаў яму : „Не бачу яшчэ падставы, каб кінуць праклясце на Яўціхія, не разумею, што ён новага прапаведуе супраць старой веры. Лічу, што ён быў няслушна пакрыўджаны, а ты стварыў неспакой у Царкве". Папа выслаў таксама пісьмо імператару Феадосію II, дзе выступіў супраць Флавія. Ён напісаў, што дактрыну Яўціхія вельмі добра ведае і што „святыя і блаславёныя айцы нашы (папы) Юлій і Фелікс выразна адкінулі дактрыну аб дзвюх натурах Хрыста " (refutantes duarum naturarum vocabulum). Пісьмо гэтае ён напісаў 18 лютага 449 г. Флавій, атрымаўшы ад папы пісьмо выслаў яму адказ, дзе дакладна апісаў дактрыну Яўціхія і паказаў усе яе памылкі. І толькі тады папа Леў I змяніў свае погляды, але было ўжо позна. Імператар Феадосій II пад уплывам пісьма папы і паклоннікаў Яўціхія сярод манахаў дэкрэтам ад 30 сакавіка 449 г. склікаў новы Усяленскі Сабор у Эфесе. Папа Леў I 30 чэрвеня 449 г. выслаў Флавію другое пісьмо, дзе вылажыў свае погляды на дзве натуры Хрыста. Пісьмо гэтае грэкі назвалі „Томасам", а лаціннікі — „Дагматычным пісьмом". У Томасе Леў I прызнаў, што Хрыстос меў дзве натуры. Пісьмо гэтае мела многа дагматычных недакладнасцей, якія ён пасля выправіў у „Другім дагматычным пісьме". Але „Томас" прынёс славу папе Льву I.

Сабор у Эфесе адбыўся ў жніўні 449 г. Гэты Сабор паказвае, як Царква была падпарадкаваная імператару. На Саборы імператар устанавіў усю яго праграму і запрасіў на яго толькі тых епіскапаў, якія падтрымлівалі погляды Яўціхія, а праціўнікаў не дапусціў на Сабор. Кіраванне Саборам імператар аддаў Дыяскору. Сабор аб'явіў, што Хрыстос меў толькі адну натуру, якая адначасна была і Боскай і людской (чалавечай). Гэта пацвярджае дактрыну Кірылы, але Дыяскор не быў задаволены і ён востра выступіў супраць Флавія. Аб'явіўшы яго ерэтыкам, не дазволіў яму абараняцца і змусіў Сабор зацвердзіць яго віну. Легаты рымскага папы не згаджаліся з Дыяскорам, але ён не даў ім права выступаць. Дыяскор і гэтага было мала, ён прывёў у царкву на Сабор натоўп александрыйскіх маракоў і манахаў. Яны выйшлі і там, у царкве, так пабілі патрыярха, што той на трэці дзень памёр. Сабор аб'явіў, што Бог прамовіў вуснамі Дыяскора і ўсе, „хто выступае супраць яго, з'яўляюцца ерэтыкамі". Прадстаўнікоў антыёхскай школы, у тым ліку патрыярха Домна выгналі ў ссылку. Сабор гэты быў пасля названы „разбойнічым" і пакуль панаваў імператар Феадосій II, ніхто не выступаў супраць яго пастаноў. І толькі пасля смерці імператара ў 450 г. яго сястра Пульхерыя з мужам Маркіянам склікалі новы Сабор у Нікею. Папа Леў I у пісьме ад красавіка 451 г. да Маркіяна пісаў, што новы сабор непатрэбны, аднак выслаў сваіх легатаў на Сабор. Імператар Маркіян захацеў сам старшынстваваць на Саборы, каб не дайшло зноў да разбою і таму хутка перанёс яго з Нікеі ў Халкідон, які ляжаў паблізу Канстанцінопаля на другім баку Босфара. Пасля Сабора ў Халкідоне, які прыняў догму, што Хрыстос мае дзве натуры і адкінуў пастановы II Сабора ў Эфесе, Сабор у Эфесе ад 449 г. не прызнаецца ўсяленскім, і таму Сабор у Халкідоне лічыцца Чацвёртым Усяленскім Саборам.

**Д. ШАТЫЛОВІЧ**




### КАМЕНТАРЫЙ ДА КАМЕНТАРЫЯ

У 36 н-ры „Нівы" ад 5 верасня г. г. сп. Д. Шатыловіч засяроджваецца галоўным чынам на пытанні, пастаўленым у загалоўку свайго артыкула: „Ці Ісус Хрыстос меў родных братоў па маці?" Аўтар ужо чарговы раз імкнецца даказваць (глядзі: „Ніва" н-р 25), што Прасвятая Дзева Марыя пасля нараджэння Ісуса мела з Іосіфам дзяцей, значыць былі гэта родныя браты Хрыста. Прадстаўленыя ў згаданым артыкуле вывады і погляды з'яўляюцца, мякка кажучы, яўна неправаслаўнымі, і таму ўжо чарговы раз (спадзяюся, што апошні) нельга мне пакінуць іх без каментарыя. Гэта важнае, бо сп. Шатыловіч рэкамендуе сябе як праваслаўнага, але адначасна піша, што можа мець свой погляд на многія факты, апісаныя ў Евангеліі. Прымяняючы далікатную фармулёўку можна сказаць, што гэта тыпова пратэстанцкае мышленне, а якія гэтага бываюць вынікі, усе мы ведаем (глядзі „Яшчэ раз аб Апостальскім Саборы", „Ніва" н-р 29 ад 18 ліпеня 1993 г.).

Каб гаварыць аб справах, якія датычаць **навукі Царквы**, трэба перш за ўсё ведаць гэтую навуку. У сувязі з тым, што аўтар не хоча зразумець гэту праўду, пачну з азначэння догмату. **Догмат** (гр. *догма*) — гэта вера ў агульнапрынятую праўду, аб'яўленую Богам, якая неабходная для атрымання збаўлення. З догматамі не дыскутуюць і не змяняюць іх. Нельга адкідаць догматаў, бо тады адначасна адкідаем збаўленне. Інтэрпрэтатарам догмату з'яўляецца Царква, і тады лагічным становіцца тое, што хто адкідае догмат, той і адкідае Царкву. Далейшыя высновы — простыя. Так як наша вера датычыць спраў, якіх не бачым, але якія ўспрымаем і прызнаем, так падобна выглядае справа і з догматамі. Яны, менавіта, вельмі важная частка нашай веры. **У догме аб Прасвятой Дзеве Марыі** заключаюцца дзве праўды: 1/ **Яна — Дзева, 2/ Яна — Багародзіца.** А калі Яна — Дзева, дык не магла мець іншых дзяцей апрача Ісуса. І або верым у гэта, або не верым. Такая вось навука Царквы.

Што датычыць азначэння „першынец", дык „першыцам" не называлі кожнае немаўля мужчынскага полу, але кожнае „разверзающее ложесна", гэта значыць першае дзіця мужчынскага полу (глядзі: III Майс., 13, 12, 15; IV Майс., 3, 12-13; Лук., 2, 23, а таксама II Майс., 11, 5; 12, 29), хаця б было і апошнім адначасна.

Аб дзявоцтве Багародзіцы прадвяшчалася ўжо ў Старым Запавеце. Так як Хрыстос назваў сябе дзвярыма, праз якія ўваходзіцца на неба (Іаан, 10, 9), так і прарок Іезекііль называе Дзеву Марыю варотамі, праз якія Хрыстос прыйшоў на зямлю, пасля чаго былі яны закрыты, і менавіта па волі Божай асталася Багародзіца назаўсёды Дзевай (Іезекііль, 44, 2).

З пашанай ставіліся да Прасвятой Дзевы Марыі ўжо пры Яе жыцці (Лука, 1, 41-43; 11, 27), а шанаваць Багародзіцу даў прыклад сам Збавіцель, калі аддаў Яе пад апеку Св. Іаана Багаслова (Іаан, 19, 26-27). Аб значэнні Багародзіцы можна пераканацца з многіх радкоў як у Старым, так і ў Новым Запаветах (напрыклад: Кніга песні песень Саламона, 6, 10; Адкрыццё 12, 1).

Я не маю намеру павучаць аўтара і накідаць яму сваю інтэрпрэтацыю. Прыпомню, што я хацеў толькі ў агульных абрысах прадставіць навуку Царквы. Гэта не мой погляд, ні духоўных, як гэта прабуе ўнушаць аўтар. Хачу таксама дабавіць, што я не з'яўляюся духоўнай асобай, але на працягу многіх гадоў актыўна ўдзельнічаю ў жыцці Царквы. Тое, што пішу, гэта не мае думкі, гэта змяшчаецца ў Праваслаўі, таму я рашыўся падпісацца толькі першымі літарамі імя і прозвішча. Напісанае мною абапіраецца на праваслаўнай рэлігійнай літаратуры. Усялякія сумненні я кансультую з нашымі святарамі. У сваёй „працы" я карыстаўся, між іншым, наступнымі выданнямі: „Настольная кніга" В. Булгакава, „Жития Святых", „Практическая симфония для проповедников Слова Божия" Г. Дзячэнка, „История Христианской Церкви" Н. Талберга, „Сказания о земной жизни Пресвятой Богородицы", „Точное изложение Православной Веры" Св. Іаана Дамаскіна і іншых.

Думаю, што крыху ўвагі трэба адвесці „артыкулам" аб саборах, якія сталі прычынай узніклай дыскусіі. Я стараўся ў іх у агульным абрысе паказаць найважнейшыя факты, хаця б з тае прычыны, што „Ніва" не з'яўляецца тэалагічным часопісам. Калі хто хоча больш дэталёва пазнаёміцца з тэалагічнымі пытаннямі, якія ўзнімаюцца на старонках „Нівы" і іншых часопісаў, дык не павінен мець з гэтым больших клопатаў. Дапаможнай можа быць шматлікая праваслаўная літаратура, якая апошнім часам выдаецца ў Расеі. Многія з гэтых выданняў можна купіць у царкоўным кіёску пры Святамікалаеўскім Саборы ў Беластоку, у памяшканні Брацтва праваслаўнай моладзі ў будынку плябаніі св. Мікалая ў Беластоку. Зрэшты, шляхоў, якімі можна дайсці да крыніц, многа — „... шукайце, і знойдзеце..." (Мат., 7, 7; Лук., 11, 9).

Думаю, што на такія, а не іншыя погляды і высновы аўтара ў значай ступені паўплывала няведанне ім праваслаўных крыніц. Са свайго боку я гатовы дапамагчы ў прыдбанні некаторых з пера-лічаных мною кніжак (кантакт праз пасрэдніцтва „Нівы"). У гэтым месцы неабходна прывесці прынамсі два выданні, з якімі варта пазнаёміцца. Гэта дзве асобныя працы азагалоўлены: „Prawosławie" P. Evdokimova i S. Bułhakowa.

Думаю, што на гэтым спынім такія тэалагічныя дыскусіі на старонках „Нівы" з увагі на тое, што мы не падрыхтаваныя да гэтага і не ўпаўнаважаныя (маю тут на думцы і сябе, і аўтара).

**С. Н.**




### АЎКЦЫЁН У КРАКАВЕ

**Кракаўскі антыкварыят „Rara Avis" арганізуе кніжны аўкцыён, які адбудзецца 16 кастрычніка г. г. у падзямеллі гасцініцы „Pod Różą" (ul. Floriańska 14). Зацікаўленым чытачам „Нівы" звяртаем увагу на такія, вось, выданні:**

Poz. 111 — Baliński M., Lipiński T., Starożytna Polska pod względem historycznym, jeograficznym i statystycznym opisana, T. 1-3, Warszawa 1843-46. Cena wywoławcza 1,5 mln zł.

Poz. 122 — Boniecki A., Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku, W-wa 1887. C. w. 6 mln zł.

Poz. 178 — Hedemann O., Głębokie (Szkic dziejów), Wilno 1935. C. w. 200 tys. zł.

Poz. 230 — Kutrzeba S., Semkowicz W., Akta unji Polski z Litwą 1385-1791, Kraków 1932. C. w. 1 mln zł.

Poz. 269 — Piekosiński F., Herbarz szlachty witebskiej, Kraków 1896. C. w. 800 tys. zł.

Poz. 295 — Polska i Litwa w dziejowym stosunku, W-wa 1914. C. w. 360 tys. zł.

Poz. 349 — Taurogiński B., Nieśwież, W-wa 1937. C. w. 80 tys. zł.

**Пісьмовыя заказы можна дасылаць на адрас:** Antykwariat „Rara Avis", ul. Szpitalna 7/4, I piętro, 31-024 Kraków. **У іх трэба напісаць нумар пазіцыі, прозвішча аўтара, першыя словы загалоўка і найвялікшую суму грошай, якую заказваючы згодны заплаціць за кнігу.**

* * *

**Увага! У гэтым жа самым антыкварыяце ў свабодным продажы знаходзіцца /каталог н-р 19, пазіцыя н-р 9/ кніга:**

— Borodzicz J., Pod wozem i na wozie, Pamiętniki... czyli kilka lat pracy duszpasterskiej na Litwie, Białej Rusi i w głębi Rosyi, Kraków 1911. C. w. 240 tys. zł.

**ПЁТР БАЙКО**



*Царква ў Дубінах.*
**Фота Я. Целушэцкага**

# ПАД ЗНАКАМ ПАГОНІ

***„Nasza Gazeta" — орган Саюза палякаў у Літве — зрабіла перадрук фрагментаў кніжкі Язэпа Малецкага „Пад знакам Пагоні". Рэдакцыя „Gazety" інфармуе, што змест кніжкі выклікаў вялікае зацікаўленне віленскіх палякаў. Чытачам „Нівы" прапануем фрагмент, які паказвае змену ўлады ў Вільні ў кастрычніку 1939 г., калі бальшавікі аддалі горад літоўцам.***

**Рэд.**

**Zmiana władzy**

28 października policja lietuwiska całkowicie obsadziła miasto. Nosiła błękitne szynele, czerwone odznaki, czapki z czerwonym otokiem i rozmawiała wyłącznie po żmudzku. Z powodu ich pociesznego wyglądu i niezrozumiałego języka wileńczuki dowcipnie nazywali ich „kałakatusami" czyli indykami. Na drugi dzień do Wilna wkroczyła brygada lietuwiskiego wojska, śladem spieszyły setki „szaulisów", żeby zająć ciepłe posady.

Żmudzkie jednostki zbrojne weszły do Wilna jako cudze do cudzego dla siebie miasta. W mieście nie było wówczas i 2 proc. lietuwiskich mieszkańców i ginęli oni w słowiańskim morzu. W związku z tym nikt nie spotykał ich wojsko, nikt nie witał. Nowi okupanci miasta zmuszeni byli przysłać z Kowna i innych swoich miast transporty lietuwiskich mieszkańców, żeby admini-stracyjnie opanować Wilno. W ten sposób przywieziono ponad 20 tysięcy.

Szybko rozpoczęły się nowe porządki. Starych mieszkańców — Polaków i Białorusinów — wyrzucano z urzędów miasta, kolei, zakładów i instytucji, szkolnictwa, administracji. Ich miejsca zajmowali małopiśmienni najeźdźcy. Wkrótce wywiesili swoje szyldy, zmienili nazwy ulic na swój sposób. Od razu wprowadzili język żmudzki we wszystkich instytucjach i urzędach. Wilno stało się niemym miastem: wszędzie potrzebny był tłumacz. Ludzie narzekali, klęli, buntowali się, że nie mogą domówić się w rodzimym mieście w swoich najbardziej pilnych sprawach życiowych.

Żeby przyśpieszyć opanowanie języka nowej władzy, zorganizowano specjalne kursy we wszystkich dzielnicach tego miasta, na które w trybie przymusowym zapędzono każdego, kto trzymał się gdzieś jakiejkolwiek pracy.

W tych mrocznych dniach Wilna białoruscy mieszkańcy miasta zaczęli oglądać się celem obrony swych praw na Białoruski Komitet Narodowy, który się mieścił przy ul. Zawalnej, 1. BKN — stara białoruska organizacja — walczyła teraz z nowymi właścicielami, żeby ulżyć losowi swych rodaków. Żmudzini bali się Białorusinów więcej niż Polaków. Gdy BKN zwrócił się do przewodniczącego miasta Stasysa, który przyjaźnił się z białoruskimi działaczami podczas polskich rządów, ten cynicznie powiedział: „Drogi nasze się rozeszły. Dopięliśmy swego, otrzymaliśmy Wilno, wy zaś idźcie do swego celu"... Taka to była filozofia żmudzkiego działacza, który, jak i wszyscy jego pobratymcy, cieszył się ze stalinowskiego sprezentowania białoruskiego Wilna.

Należało ustalić i wciągnąć na ewidencję świadomy białoruski element w tym starym białoruskim mieście. W lokalu BKN rozpoczęła się rejestracja Białorusinów. Gdy w pierwszym tygodniu zarejestrowało się ponad 5000 Białorusinów, żmudzkie władze wywołały do siebie prezesa BKN, inż. Adolfa Klimowicza i rozkazały mu wstrzymać „wrogą" działalność. Po długich negocjacjach wreszcie przyobiecali, że nie będą wyrzucać Białorusinów z urzędów, zakładów i instytucji miasta Wilno w związku z ich białoruskością. Przyobiecali nawet, że zezwolą na białoruskie szkolnictwo. Były to jednak wyłącznie obiecanki. O każdą sprawę należało — i to nie mało — walczyć. Osobiście obijałem progi w lietuwiskim ministerstwie kultury i oświaty w walce o białoruskie szkoły.

A było to tak. Dzięki niestrudzonym wysiłkom ojca A. Stankiewicza, A. Sokołowej, M. Ancukiewicze i M. Pieciukiewicza Białorusinom powiodło się w zatrzymaniu starego gmachu Wileńskiej Białoruskiej Hramady oraz w utworzeniu kilku białoruskich szkół początkowych w Wilnie i na Oszmiańszczyźnie. Białoruskie gimnazjum szybko skompletowało 3 i 4 klasy po 40 uczniów. W związku z dużą ilością kandydatów dyrekcja gimnazjum chciała otworzyć równoległe klasy, lietuwisy, widocznie, przestraszyli się i zabronili przyjmowania do jednej klasy więcej niż 40 uczniów.

Żmudzki szowinizm szalał w całym Wilnie, przeciwko Białorusinom szczególnie. Żmudzini chcieli zawładnąć Białoruskim Muzeum im. Iwana Łuckiewicza. Trwała długa i zacięta walka. Białorusini nie poddali się, muzeum pozostało w ich rękach.

Żmudzini byli zaślepieni przekazaniem im Wilna przez Stalina do tego stopnia, że pokornie zgadzali się na coraz to nowe zakusy Moskwy na ich „niezależność".

*„Nasza Gazeta", Nr 30 (106) z 27 lipca 1993 r.*

# БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ-ВІЛЕНЧУКОМ

**ПАЎСТАГОДДЗЯ ПАЗНЕЙ**

Гэта гонар быць ім. Не мае тут значэння, ці нехта ўраджэнец горада, ці прышэлец аднекуль. Гэта адначасова імператыў, каб працягваць мясцовую беларускую традыцыю, робячы для яе нешта карыснае, узбагачаючы тым самым агульнае аблічча многанацыянальнай Вільні. У ніякім выпадку не павінна яна страціць свой фарміраваны стагоддзямі характар.

Тутака ўсё шчыльна сплецена і ўзаемаабумоўлена: асабістыя лёсы людзей, іх родныя спадчыны, нават гучанне сучасных прозвішчаў шмат нам падскажуць. Калі ўважліва ўгледзімся ў твары, асабліва старажылаў, дык знойдзем у іх штосьці супольнае ў антрапалагічным ужо разуменні. Вуха ж усё ж ловіць каштоўную, выпрацаваную вякамі, балцка-славянскую фонію паасобных моваў.

Усё віленскае нагадвае разнастайнымі ўзорамі і колерамі дыван, які ткаўся ў нібыта вялізнай, пад голым небам, майстэрні бессмяротнага мастака-волата. Калі б удалося вам пабачыць гэты дыван з левага боку, з яго дзівоснай блытанінай нітак і вузлоў, дык пасля даўжэйшага назірання пераканаліся б, што ў кожнага фрагмента ёсць свой сэнс, што пануе тут гарманічнасць, а толькі вочы раней мыляюць.

Вільня гэта недасягальная метафара хараства нашай зямной сялібы — прыстані... Мо і таму мог тут плённа і натхнёна тварыць вядомы літоўскі жывапісец Чурлёніс, метафізічна ўжо ўспрымаючы навакольны свет.

Прыпамінаецца мне пранікнёнае глыбокай праўдай сцвярджэнне віленскага мастака-фатографа міжваеннай пары, Яна Булгака, што віленчукі вызначаюцца адметным імкненнем: пошукамі ў сваім горадзе велічных элементаў, вечнасці і чалавецтва, універсальных вартасцей. А даступныя яны толькі асобам удумлівым, з шырокімі даляглядамі, і дай Божа, каб такіх людзей было ўсё больш і больш! Да адчування Вільні даходзіцца ў доўгім гістарычным працэсе; няўхільнае экзістэнцыяльнае паражэнне чакае таго, хто гэтага факту не ўцяміць.

Дык каб самая сутнасць віленскасці -- яе духоўная шматпамернасць -- сталася трывалым здабыткам свядомасці тых, ад якіх залежаць лёсы гэтага незвычайнага горада пад паўночным небам Эўропы! А сваімі глыбінёвымі таямніцамі, сумежнымі ўжо са звышнатуральнасцю, віленскасць даступная толькі камусьці містычна настроенаму. Жадаю, каб чытачу даялося сустрэць калісьці такога чалавека (калі ўжо гэта не здарылася), прынамсі пры дапамозе творчага акту. Аднак на наш, так сказаць, штодзённы ўжытак хопіць свядомасці гэтай шматпамернасці, гэтага сукведця духоўных плыняў Вільні, сярод якіх няхай ніколі не завяне беларускі васілёк!

Клапатліва ахоўваюць раслінку, на жаль, нешматлікія дзеячы. Іх аддачасць справе можна толькі супаставіць са свяшчэнніцкай службай. Гэтае свецкае капланства мяне незвычайна ўсхвалявала, умацавала ў перакананні, што перад беларускай грамадскасцю вырысоўваюцца надзейныя перспектывы, тым больш, што гэта не праца з нуля. Прынамсі каштоўныя "Вандроўкі па Вільні" спадара Лявона Луцкевіча ў мясцовых беларускіх радыёперадачах гавораць, як багатае тут мінулае беларусаў.

У роднай Вільні апынуўся я пасля 50-ці амаль гадоў адсутнасці. Сёлета, у жнівеньскія дні, вандраваў я сцежкамі дзяцінства і ранняга юнацтва. Паступова з забыцця ўсплывалі добразнаёмыя абрысы даўняга горада, аднаўляліся ў памяці эпізоды, здавалася б, назаўсёды ўкінутыя ў бяздонне часу, і роздумы над адвечным прамінаннем настройвалі быццйна. Зразумела, не абмінуў і будынка Беларускай віленскай гімназіі (вул. Вострабрамская, 29), у якой я вучыўся ў ваенныя гады. З чуллівасцю дакрануўся да муроў, успамінаў вучняў, настаўнікаў; быццам жывы, раптам абрысаваўся перада мною сілуэт прафесара Францішка Грышкевіча, дырэктара. Гэта быў чалавек высокай культуры, выдатны беларусіст. Пахіліў галаву перад базыльянскімі мурамі, моцна звязанымі з мясцовай беларушчынай, прашаптаў першую суру (раздзел) Карана, аль-Фаціха, перад абразом Пані Вастрабрамскай па традыцыі шматлікіх маіх адзінаверцаў у даўніх часах. Зусім малазначны ж факт, што я вернік іслама; без вынятку, усё мне дарагое ў Вільні, як аднолькава дарагое на іншых землях, дзе зараз жывуць часткі роднай арды, якія ўяўляюць сабою этнічную татарскую супольнасць (шчыра прызнаюся, што ў маіх пачуццях не існуюць дзяржаўныя граніцы паміж гэтымі землямі, складаючымі, такім чынам як у далёкім мінулым, суцэльны абшар...).

Вяртаюся, аднак, да галоўнай тэмы. Спыніўся я на "Вандроўках па Вільні" Лявона Луцкевіча, якія прыбліжаюць беларускі раздзел гісторыі горада.

*(Працяг будзе)*

**МАЦЕЙ КАНАПАЦКІ**

<u>**На школьнай ніве**</u>

## У НАС, У САКАХ...

У Пачатковую школу ў Саках, што ў Кляшчэлеўскай гміне, ходзяць вучні не толькі з гэтай вёскі, але і з суседніх Сухавольцаў, Тапаркоў і Залешанаў. 55 вучняў займаецца ў класах I - VIII і дзесяць малалетак — у прадшкольным аддзяленні. Беларускую мову — пад кірункам Яўгеніі Васілюк, Васіля Сахарчука і Мікалая Гапонюка — вывучае 25 дзяцей.

У школе адбыліся вялікія змены. Пасля працяглага рамонту, які ўсё ж паспяхова закончыўся падчас сёлетніх канікулаў — тут усё адноўленае: класныя залы, кухня, раздзявальні, калідор і прыбіральні. Варта адзначыць, што цяперашнія самыя лепшыя ўмовы да навукі ў школе — гэта заслуга і бацькоў, і беластоцкай Куратрыі асветы, і войта Кляшчэлеўскай гміны. Апошнім часам усе спецыялістычныя і завяршаючыя рамонт працы выконвалі рамонтна-будаўнічыя брыгады Бельска-падляшскага прадпрыемства „Польбуд".

Школа мае, між іншым, камп'ютэрна-тэлевізійны і фізкультурны залы! У першым з іх навейшае тэхнічнае абсталяванне. Там таксама багатая бібліятэка, а ў ёй — беларускія кніжкі і „Ніва".

Настаўнікі паклапаціліся — гэта адразу кідаецца ў вочы любому наведвальніку — пра насценгазеты. Многа іх, між іншым, на доўгім калідоры. Усе прыгожыя, абдуманыя, змястоўныя. Ёсць куточак з фігуркамі розных звяркоў і птушак, убачаных вопытным вокам разьбяра ў... выкапаных карэннях розных пародаў дрэў. Наогул у школе прыемна і ўтульна.

Вучні з Сакоў — удзельнікі шматлікіх міжшкольных конкурсаў і алімпіядаў. Займалі яны перадавыя месцы, між іншым, у дэкламатарскім конкурсе для дзяцей-прадшкольнікаў, у конкурсах па супрацьпажарных тэмах ды па правілах бяспечнага вулічнага руху.

У школьнікаў з Сакоў — не толькі ўрокі. Вучні арганізуюць розныя культурна-забаўляльныя мерапрыемствы. У бліжэйшым плане — экскурсія ў Варшаву.

## ... І Ў ДАШАХ

У мясцовую школу ходзяць дзеці з Дашоў, Пагрэбаў, Жукоў, Грузкі, Пятроўшчыны і Паўлова. Усяго 52 школьнікі. Трыццаць з іх вучыцца беларускай мове. Урокі па роднай мове вядзе настаўніца Вялянціна Андрасюк. На занятках яна часта выкарыстоўвае „Ніву" і „Зорку". Дагэтуль у Дашы на аўтарскія сустрэчы прыязджалі наступныя „белавежцы": Сакрат Яновіч, Ірына Баравік, Віктар Швед і Міхась Шаховіч. Нядаўна запрашэнне на сустрэчу з вучнямі і настаўнікамі атрымаў Янка Целушэцкі.

У часе сёлетніх канікулаў у школе ў Дашах перабудавалі коміны-дымаводы і электраўстаноўку, памалявалі класныя залы. Школа ў Дашах мае тры камп'ютэры. Яны — узнагарода за I месца ў ваяводскім конкурсе ашчаднасці СКО.

Зараз вучні рыхтуюцца да школьнага свята печанай бульбы, а таксама да экскурсіі на мора, падчас якой наведаюць, між іншым, Гданьск. Грошы зарабілі самі. У мінулым школьным годзе ездзілі ў Белавежу, у Аўгустаў і ў Вульку над Бугам.

**ЯНКА ЛЯЎКОЎСКІ**

## БАЦЬКОЎСКАЯ ХАТА

Калі толькі еду я ў вёску да брата,
Каб сэрца трывожнасць палечыць,
Мяне тут заўсёды бацькоўская хата
Пужае страшэннай пустэчай.

Жыве ў прыбудове мой родны брат Пеця,
Якую сам ставіў калісьці.
Пакінулі вёску ягоныя дзеці,
З хаціны бацькоў знайшлі выйсце.

Мне кожная рэч, што была тут з бацькамі
Ды кожны жыллёвы куточак
Нагадвае тату, нагадвае маму
І быццам сказаць нешта хочуць.

Спачылі бацькі ўжо даўно на пагосце,
Трымаюць мне месца і брату.
У вёсцы бываю не частым я госцем.
Сумуе бацькоўская хата.

**ВІКТАР ШВЕД**

БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ № 405

*МІРА ЛУКША*

* * *

Хто табе ўслед
Кінуў нож?
Можа, твой цень
Табе аддаў?
Ї не памогуць
Ніякія замовы,
Ні поўны кубак
Жывой вады...

Не зажывеш.

**ГАЛІНА ТВАРАНОВІЧ**

* * *

Бунтоўнай стыхіі
мецъ бы ўсё разам —
і квадру, і поўню, і маладзік.
Прагным глытком асушыць
гарачую чару да самага дна.
.................................................
Завязь сыплецца долу —
студзіць паспешлівасць
р а с ч а р а в а н н е м.

*САКРАТ ЯНОВІЧ*

## ХЭЎРА

Франак-Амэрыканец гаварыў з Хлусавым Толікам; сцябалі самагонку ў Вераб'іхі, начэкваючы трэцяга. Ён павінен быў прыйсці з прыцемкам, калі людзі ў мястэчку парассядаюцца перад тэлевізарамі.

Вераб'іха, насмажыўшы ім яечні са скваркамі ды паставіўшы на стол што трэба, таўкла ў сенцах бульбу свінчаці.

— Ты, Толь, мяне ведаеш, — павярнуў гутарку да гешэфту Франак.

— А каб не!

— Помні-запомні, Толь.

— Ну і што ты ўсё не верыш мне, Франак!?

— Хліснем, давай, бо заснем...

Пілі надпіваючы, каб не дагаварыцца да бяды. Той чамусьці не прыходзіў і яны адставілі нясконченую бутэльку, адсунулі і закусь, быццам рыхтуючыся пагуляць змаганнем на рукі. Не запальвалі святло. За ваконцам, у бок Купцовага луга, мігцеў на дождж маладзік. Вераб'іха грукала ў каморы, не забываючы, што яе хлеб патаемкі — гэта не чуць лішняга.

— Ідзем, Толь, — падняўся з-за стала Франак.

— Ага, не прылез, зараза.

Франак-Амэрыканец змоўчаў так, што Хлусаў Толік крадком адставіў прыхаваную ім пад палу недапітую паўлітроўку назад. Ён трохі ведаў таго, каго не прычакалі, і ў душы пашкадаваў яго з тым страхам, з якім літуюцца над няшчасна пацярпелым суседам, самі дзякуючы Богу за лепшы лёс.

*ГЕНРЫХ ГЕЙНЭ (1797—1856)*

**ВАЛТАСАР**

Паўночны час даўно прабіў,
Увесь Вавілон у цішы спачыў.

Адзін палац шумеў, як днём,
І вокны ззялі там агнём.

Людзьмі кішэў яго абшар:
Там пір даваў цар Валтасар.

Баяры ў строях з серабра
Ўздымалі кубкі за цара,

Лісліва пелі з-за стала:
„Цару пашана і хвала!"

У віне знайшоў адвагу цар,
Пачырванеў ягоны твар.

Каб моц ўсеўладнасці зазнаць,
Пачаў ён Бога праклінаць.

І перад радаснай гурбой
Хваліўся дзёрзкасцю сваёй.

Вось цар пазваў слугу свайго,
У храм Еговы шле яго.

І той прынёс да ног цара
Каштоўны посуд з алтара.

І цар блюзнерскаю рукой
Віном запоўніў посуд той.

Да дна ён кубак асушыў
Ї ўголас дзёрзка абвясціў:

„Егова! Твой алтар ля ног!
Я ў Вавілоне цар і бог!"

Ледзь толькі скончыў свой праклён,
Спалох адчуў раптоўна ён.

Заціхлі смех і мітусня,
Настала ў зале цішыня.

О цуд! На вобласці сцяны
Руку заўважылі яны.

І на сцяне ад той рукі —
Агністых літараў радкі.

Аслупянеў цар Валтасар,
Дрыжаць калені, бледны твар.

Апанаваў баярства жах,
Глядзяць маўчком, жуда ў вачах.

Прызвалі магаў паглядзець —
Ды не, тых слоў не зразумець!

Калі ж змяніла ноч зара,
Рабы зарэзалі цара.

**Пераклаў Юры Кісялеўскі**

*XXXV-годдзе "Белавежы", Цехановец, 6.VI.1993 г. Злева: Ян Чыквін, Тэрэса Занеўская, Таццяна і Сакрат Яновічы, Віктар Швед і Янка Целушэцкі.*

**Фота Міры Лукшы**

*ЯНКА ЦЕЛУШЭЦКІ*

## ВІКА

Снег выпаў пасля ночы. Памаладзеў, абнавіўся свет. Снег павіс на галінах шэрых дрэў. Такі бялюткі. Дзяўчына гадоў дваццаці стаяла на аўтобусным прыпынку, каля скрыжавання найбольш рухлівых гарадскіх вуліц. Ад лёгкага марозіку пачырванелі яе прыгожыя шчокі і нос. Неўзабаве да яе падышоў малады мужчына. Ён пацалаваў яе ў руку. Быў вышэйшы ад яе на цэлую галаву. Узяў дзяўчыну пад руку і яны пайшлі ў напрамку гасцініцы. Тут затрымаліся, аб нечым гаварылі.

Я прайшоў побач іх да газетна-часопіснага кіёска і купіў у ім „Кур'ер". Чуў яе мілы голас. Яна сказала, што ёй холадна так стаяць на тратуары. Я таксама падумаў, што і мне зараз холадна ды вырашыў зайсці ў кавярню. У ёй заўсёды чыста, светла, утульна і што цяпер важна — цёпла, заўсёды можна выпіць кубачак добрай кавы. Неўзабаве прыйшлі сюды і яны.

Прыселі побач з маім столікам. Цяпер я бачыў, як яе невялікі нос пакрысе бялеў, не быў ужо такі амаль чырвоны. Нічога не гаварылі. Я пачаў перачытваць загалоўкі артыкулаў у газеце. Тады зноў пачуў яе голас, яна папрасіла ў мяне „Кур'ер". Я пазычыў. Чыталі яны абвесткі. Потым ён пайшоў пазваніць па тэлефоне, а яна аддала мне газету. Падзякавала і, крыху засаромленая, дадала:

—Шукаем для мяне кватэру...

Мне прыгадалася, як самому даводзілася шмат разоў мяняць пакой да таго часу, пакуль не атрымаў уласную кватэру. Усё ж злавіў я сябе на думцы, што павінен адказаць гэтай дзяўчыне.

— Так, — сказаў я. — Цяпер нялёгка знайсці кватэру... Я таксама меў некалі такі клопат.

Яна паглядзела на мяне так, што мне захацелася пазнаёміцца з ёю і я назваў сваё імя, Алесь.

— Віка, — сказала яна і ўжо былі мы знаёмымі.

— А ён... Андрэй, — дадала. — Ён — шафёр аўтобуса, гэта мой...

— Прыяцель, сябра, — я выручыў яе ў адказе.

— Так. Я з іншага горада. Будзе год як мы з ім не бачыліся, не сустракаліся. Прыехала сюды, пазваніла яму і папрасіла, каб дапамог мне знайсці пакойчык, я хачу тут жыць... Не ведала, што ў яго цяпер іншая жанчына.

Яе шчырасць мяне моцна здзівіла. Я паглядзеў на яе: якая яна прыгожая! А вочы! Колькі ў іх хавалася пяшчоты, дабраты і шчырасці.

— Я бачыла вас на прыпынку. Вы глядзелі на мяне...

— А вы сёння, пэўна, не маеце часу, будзеце шукаць кватэру... Але заўтра? — спытаў я.

— Не, чаму. У мяне і сёння ёсць час, бо не верыцца мне, што Андрэй хутка знойдзе пакойчык. А заўтра вяртаецца тая яго новая дзяўчына, дык... Але, магу паехаць адсюль нават сёння.

Даволі нечакана самому сабе я гаварыў далей:

— Добра, дык сустрэнемся праз... — і не паспеў я даказаць, калі ўбачымся. Якраз вярнуўся Андрэй і паведаміў, што тыя з аб'явы не захацелі прыняць на кватэру жанчыну.

Я, каб шчыра прызнацца, ніколі не запрашаў да сябе ніводнай дзяўчыны. Сяброў так. Нават цешуся, калі яны наведаюцца да мяне. Але, каб прывесці да сябе жанчыну... Гэтага яшчэ не было.

— Нічога, — пачуў я скрозь свае думкі голас Вікі, — пакуль што пасялюся ў Алеся. Выбачайце, я і забыла вас пазнаёміць.

— Андрэй.

— Алесь.

Не скажу, каб не быў ён здзіўлены, але, хіба ж менш, чымсьці я сам.

– Шчыра дзякуем, — сказаў ён.

— Дробязь, — сказаў я. І мы паехалі на таксі да Андрэя па чамаданчык Вікі.

* * *

Калі Віка з'явілася ў мяне на кватэры, яна стаілася, сцялася і ўсё нешта думала, цяжка, і маўчала. Была зусім не тая, што навязалася мне там, у кавярні. Села на беразе крэсла, і ані слова. Паглядзела на кніжныя паліцы. У яе душы ўзнік лёгкатрывожны неспакой. Позірк у яе быў палахлівы. Я пайшоў у кухню рыхтаваць вячэру. Крыху счакаўшы, Віка ўзялася згатаваць чай. Тады я пацалаваў яе першы раз.

А пасля вячэры Віка пацалавала мяне. Я абняў яе за плечы, адчуў мяккую цеплыню яе цела; нібы ў тумане, знайшоў яе губы — і ўсё паплыло перад вачыма...

Потым я ляжаў на спіне, а яна ціха сядзела побач. „Якая яна прыгожая, — думаў я. — Гэта шчасце, што яна сустрэлася мне".

...І добра нам з сабою. Часамі наведвае нас Андрэй са сваёй дзяўчынай. Прыносіць тады ён пляшку добрага віна і гутарым, пераважна, пра тую сустрэчу ў кавярні. Віка весела смяецца, цікава прыжмурвае вочы. А я, здаецца, бачу яе на аўтобусным прыпынку. Пругкую ў хадзе, спрытную ў руках. І яе сінія, поўныя пяшчоты і дабрыні вочы.

Гэтае маё апавяданне — звычайная, паўсядзённая мая проза. Таму няма ў ім трагічнага заканчэння. Я хацеў бы, каб увогуле не мела яно заканчэння, бо Віка — добрая жанчына. Я шчаслівы, што магу цалаваць яе. Яна дапамагае мне жыць і працаваць.

# Зорка
## СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

### ДОБРЫ ДЗЕНЬ, "ЗОРКА"!

Здаецца, нядаўна яшчэ былі канікулы, а ўжо верасень на сконе. Ужо амаль цэлы месяц пяцьдзесят пяць вучняў з Сухавольцаў, Тапаркоў, Залешанаў і Сакоў ходзяць на ўрокі ў Пачатковую школу ў Саках, што ў Кляшчэлеўскай гміне. Усе класы вельмі прыгожыя, старанна адноўленыя. Падчас летніх месяцаў закончыўся працяглы рамонт. Настаўнікі паклапаціліся -- гэта адразу кідалася ў вочы, заўважалася -- пра насценгазеты, беласнежныя фіранкі, таблічкі з надпісамі. Насценгазеты не толькі прыгожыя, але і абдуманыя, змястоўныя.

8 верасня ў згаданай школе адбылася сустрэча аўтара "Імгненняў" Янкі Целушэцкага са старэйшымі і малодшымі вучнямі. Было гэта ў паўсядзённым жыцці школы нешта новае і незвычайнае. Пісьменнік у школе! Усе -- вучні і настаўнікі -- прынялі яго сардэчна і з вялікім зацікаўленнем, як самага жаданага госця. Былі пытанні, вядома, няма без іх сустрэчы -- самыя розныя -- да літаратара, было жывое трапяткое зацікаўленне ягонай кніжкай і былі кветкі -- цудоўныя ружы ў падарунку ад усіх слухачоў. На развітанне. Было таксама запрашэнне прыехаць зноў, у чарговы раз.

Былі і прывітанні "Зорцы" і яе чытачам.

Прывітанні перадае
**ЯНКА ПАДАРОЖНІК**



*Бульбяная пара ў Плёсках.*

*АЛЕСЬ ПІСЬМЯНКОЎ*

### СНЫ

Птушкаферма сніцца лісу,
Сніцца мішку мёду міса.
Сніцца зайчыку капуста,
Сніць цялятка хлеба лусту.
А свавольніку Рыгорку
Сніцца ў дзённіку пяцёрка.

### ЗАЛАТОЕ СОНЕЙКА...

Залатое сонейка
Выбегла на гонейкі,
І руплівая пчала
Дзень працоўны пачала.
Нават кот-вуркот і той
Ужо выпіў сырадой.
Што ж ты спіш усё, малы,
Што не вучышся ў пчалы?

### ВАЯКІ

Грып ды Кашаль,
Два бандыты,
Зноў ваююць
З Апетытам.

Усё сочаць,
Усё сочаць,
Апетыт украсці хочуць.

Толькі возьмеш
Нас не дужа:
Апетыт мой --
Хлопец дужы!

У яго палкі
Гeрояў,
За яго яны
Гарою:
Вітаміны-грэнадзёры
З генералам
Памідорам,
Вітаміны-кірасіры
З Часнаком —
Ваякам шчырым.

Грып ды Кашаль,
Два бандыты,
Не ваюйце
З Апетытам!

### ВОРАГ

Вам прызнаюся, што ўчора
У мяне з'явіўся вораг —
Забіяка з забіякаў,
Задавака з задавакаў.
Прачынаецца уранку
I цікуе каля ганку,
Гэткі важны, гэткі злосны,
Генерал курыны грозны.
Да мяне ляціць ён куляй
I крычыць, каб усе чулі:
"Я галоўны у бабулі,
Я любімы у пчалы!"

*ЭДЗІ АГНЯЦВЕТ*

### ТАТА, СПЫНІСЯ!

Тата, чаму ты нас пакінуў?
Мама, брацік і я,
мы, нібы праз туманы,
Глядзелі ў тваю сагнутую спіну,
Калі ты па лесвіцы нёс два чамаданы.

Мы не прасілі, не плакалі ўголас,
Толькі матчыны слёзы ўціраў я рукою...
А помніш, хадзілі мы ў цырк вясёлы?
Мы рыбачылі ўлетку над ціхай ракою.
А помніш, помніш?

Ты нёс чамаданы, не азірнуўся
На тых, хто застаўся ля дзвярэй твайго дома.
Ты знікаў.
Але доўга мне чуўся
Пах прагорклы,
дагэтуль зусім невядомы...

Тата, спыніся! Тата, даволі!
Як мне суцешыць журботную, добрую маму?
О, што я скажу настаўніцы ў школе?
Перад сябрамі сорамна будзе таксама...

Прыціхлі птушкі на даху кармушкі.
Я вас накармлю, сініцы-дачушкі!
А Тузік тужліва слядоў шукае,
Скуголіць, маленькі, і ўсё чакае.

Плакаць ніколі не стану пры людзях,
Я — мужчына. Адказны за маму, за брата.
Як тата старэнькім і хворым будзе, —
Я знайду і дагледжу яго, вінавата!

Можа, тады ён мяне зразумее --
Заплача,
як плача ўначы завея...

## ХМАРКА, ЯКАЯ ШУКАЛА СЯБРА

Жыла-была маленькая кучаравая Хмарка. Аднойчы, пралятаючы над дзіцячай пляцоўкай, яна ўбачыла, як дзеці пускаюць сонечных зайчыкаў. Бліскучыя зайчыкі скакалі па дрэвах, дамах, бегалі па дахах і зазіралі ў вокны. І так спрытна, што ўсім было весела, дзеці смяяліся.

Хмарцы таксама захацелася пагуляць з зайчыкамі, але ў яе не было люстэрка. І тады яна рашыла пускаць свайго, хмарнага зайчыка. Хмарка пабегла і, закрыўшы сабою сонейка, спынілася над дзіцячай пляцоўкай. Пляцоўку накрыў вялікі цёмны зайчык. Але дзеці чамусьці перасталі смяяцца, іх сонечныя зайчыкі некуды зніклі. Пастаяла Хмарка, пастаяла і рашыла, што тут ніхто не хоча з ёю гуляць, і пабегла далей. Услед за ёю пабег і цёмны зайчык.

Прыбегла Хмарка да берага вялікай рэчкі, дзе загаралі людзі. І захацелася ёй пагуляць з імі. Яна пачала закрываць сонейка то з аднаго боку, то з другога, бегала над пляжам і смяялася. Але людзі чамусьці захінаціся ў посцілкі, калі Хмарка пускала на іх сваіх зайчыкаў.

І так было скрозь, дзе б яна ні з'яўлялася. Ніхто не хацеў з ёю гуляць, ніхто яе не разумеў. А ёй было так самотна, так хацелася з кім-небудзь пасябраваць.

Раптам на адной з вуліц вялікага горада Хмарка сустрэла Дождажык.

-- Дождажык, Дождажык, што ты тут робіш? -- запытала яна.

-- Я хацеў пагуляць з дзецьмі, але мамы забралі іх дадому. Хацеў пагуляць з дарослымі, але яны раскрывалі парасоны і таксама не захацелі са мною гуляць. Тады я пачаў гуляць з машынамі. Яны ўцякаюць, а я іх даганяю. Было так весела, што я не заўважыў, як заблудзіўся. А зараз не ведаю, як выбрацца адсюль.

-- Трымайся за мяне, -- сказала Хмарка. -- Я падымуся высока-высока, і мы з табою паляцім разам.

Доўга ляцелі разам і прыляцелі ў іншы горад. Стаміліся Хмарка і Дождажык, прыселі адпачыць на даху высокага дома. А ў гэтым доме працавалі метэаролагі -- людзі, якія прадказваюць надвор'е. Адзін з іх глянуў у акно і кажа:

-- Вось добра! Мы якраз і чакалі вас! Даўно ў нас не было дажджу, а горад трэба мыць. Ці не зрабілі б вы такую ласку?

Хмарка і Дождажык згадзіліся.

І цяпер, калі раніцою радыё перадае, што чакаецца пераменная воблачнасць і пройдзе кароткачасовы дождж, -- гэта значыць, што Хмарка і Дождажык выходзяць на працу. Яны мыюць вялікія і малыя дамы, вуліцы, дрэвы, кветкі на клумбах. Людзі кожную раніцу таксама ідуць на працу, у горадзе свежа, чыста, і ўсе кажуць Хмарцы і Дождажыку дзякуй.

**СЯРГЕЙ ТАРАСАЎ**

ПТУШКІ Ў БЕЛАРУСКІМ ФАЛЬКЛОРЫ

# ПЕВЕНЬ

"З белага каменя, з жоўтага воску адазваўся кавалер на ўсю вёску", "Нарадзіўся прарок з-пад белага каменя, -- стаў праракаці, сталі людзі з мёртвых уставаці". Гэтыя беларускія загадкі пра пеўня, відаць, з'явіліся ў сівой мінуўшчыне. Яшчэ да таго, як людзі прыручылі курэй, яны звярнулі ўвагу на дзіўныя начныя гукі, неўзабаве за якімі ўсходзіла сонца. Першае кукарэканне будзіла таксама і ўяўленне нашых прашчураў: крык пеўня можа прагнаць цемру, злы дух, які пануе ноччу.

У беларускай казцы "Дочкі" дзедава дачка, каб уратавацца ад чорта, просіць: "Пойце, куркі, рана!" І певень выратоўвае яе, "чорны, варухаты" адразу ж прападае. Аб тым, што гэта казка вельмі старадаўняя, сведчыць слова "куркі". І азначае яно, вядома, не курэй, а менавіта пеўня. Кур -- такім словам даўнія славяне, а магчыма, нават праславяне называлі пеўня. Аўтар "Слова пра паход Ігаравы", а за яго маскоўскі даследчык Б. Зотаў прызнае Кірылу Тураўскага, таксама выкарыстаў гэтае слова. Каб сказаць, што князь Усяслаў Полацкі хутка, яшчэ да ўсходу сонца даімчаў да Кіева да Цьмутаракані, наш "залатаву[illegible] ужыў фразеалагізм (спалучэнне слоў) "до кур", г. зн. да пеўневых галасоў. А тады казалі яшчэ "в куры" -- на світанку, "к курам" -- да світання. У слоўніку беларускай мовы І. Насовіча запісаны выраз "а первых петухах разбудзіў" -- разбудзіў вельмі рана.

Вядома, першым гадзіннікам было сонца. Але певень агалошваў яго ўсход, быў вестуном сонца. Таму і выбіта выява пеўня на старадаўняй манеце з грэчаскага вострава Крыт. І нашы продкі выразалі пеўняў на вільчаках стрэхаў, на пернікавых формах, вышывалі на ручніках.

**ЗДЗІСЛАЎ СІЦЬКО**

## ГЭТА ЦІКАВА

Ці ведаеце вы, што многія птушкі сеюць лес? Насенне і костачкі з'едзеных ягад не пераправліваюцца пры праходжанні праз кішэчнік птушкі і разносяцца затым у розныя месцы. Заўважана, што такое насенне прарастае значна хутчэй.

Дразды разносяць насенне суніц, чарніц, брусніц і рабіны; амялушкі -- рабіны, шыпшыны і ядлоўцу; чачоткі здзёўбваюць і разносяць насенне бярозы; крыжадзюбы -- елкі і сасны.

## АДГАДАНКА

*Адшукай дарогу да кветкі, грыбка і елачкі.*

БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ГУЛЬНІ

# ШУЛЯК

Гэту гульню любяць і хлопчыкі, і дзяўчынкі. Пасля вясёлых і працяглых крыкаў: "Хлопцы, грайма ў шуляка!" -- дзеці супакойваюцца і выбіраюць са свайго асяроддзя матку і шуляка -- звычайна найбольш спрытных з дзяцей. Матка становіцца спераду, а за ёю ў рад дзеці і моцна трымаюцца за пояс адзін у аднаго. Такім чынам стаяць да пачатку гульні. Тады шуляк садзіцца на кукішкі перад маткаю, капае ямку і гаворыць:

-- Капаю, капаю ямачку!
-- Нашто табе ямачка?
-- Агонь паліці.
-- Нашто табе агонь?
-- Мяса варыці.
-- Нашто табе мяса?
-- Дзяцей карміці.
-- А дзе ж мяса возьмеш?
-- У цябе.
-- А я не дам!
-- А я вазьму!

І з крыкам: "А я вазьму!" -- шуляк кідаецца лавіць апошняга хлопчыка.

Матка ж імкнецца не дапусціць гэтага. Прыемна глядзець, як уся гэтая чарада кідаецца з боку ў бок і як усе дзеці з напружаннем сочаць за рухамі шуляка. Нарэшце пасля некалькіх няўдалых спроб яму ўдаецца злавіць апошняга хлопчыка. Злоўлены хлопчык адыходзіць убок і ўжо не ўдзельнічае да канца гульні, а шуляк такім жа чынам стараецца пералавіць усіх.

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

Настаўніца задала ў класе тэму самастойнай працы: "Калі б я быў дырэктарам..."

Усе пачалі пісаць, а Мікола сядзіць, склаўшы рукі.

-- Ты чаму не пішаш? -- пытаецца настаўніца.

-- Чакаю сваю сакратарку.

* * *

-- Пакладзі малаток, Міхась, бо яшчэ пальцы паб'еш! -- непакоіцца маці.

-- Не, мама, не хвалюйся. Цвік трымае Пятрок.

* * *

-- Дзядзьку, чаму вы ловіце толькі маленькіх рыбак? -- пытаецца хлопчык у рыбака.

-- У маёй жонкі маленькая патэльня.

* * *

Міхаська прыйшоў у школу без асадкі. Настаўнік вырашыў яго пакараць.

-- Ты павінен, ужываючы займеннікі, паўтарыць сказ дзесяць разоў: "У мяне няма асадкі", "У цябе няма асадкі", "У яго няма асадкі", "У нас няма асадкі", "У вас няма асадкі"...

-- Калі ў нікога няма асадкі, то чым я буду пісаць? -- збянтэжыўся вучань.

**ЯСЕНЬ**

*ГРАФІНЯ ДЭ СЭГЮР*

# ЗАЧАРАВАНАЯ ХАТКА

-4-

*КАЗКА*

*(Працяг з папярэдняга нумара)*

-- Гэта мой бацька вяртаецца, -- спалохана сказала яна. -- О, Мыш, калі ласка, злітуйся, пайдзі адсюль куды-небудзь, каб мой бацька цябе не бачыў!

-- Нікуды я не пайду, -- адказала Мыш, -- але я магу схавацца ў цябе за абцасам, каб паглядзець, як твой бацька здагадаецца пра тваё непаслушэнства.

Ледзь толькі Мыш паспела схавацца ў Разалі за спіной, як у пакой увайшоў Прудан. Ён зірнуў на Разалі і заўважыў, што яна ўся бледная і вельмі спалоханая.

-- Разалі, -- сказаў Прудан дрыготкім голасам, -- я забыў узяць ключык ад хаткі. Ты знайшла яго?

-- Так, бацька, вось ён, -- адказала Разалі, вяртаючы ключык, і моцна пачырванела.

-- А чаму тут разлітае малако?

-- Гэта кот, бацька, -- сказала Разалі.

-- Кот? -- здзівіўся бацька. -- Няўжо кот мог зняць з агня поўны кацёл з малаком і разліць яго пасярод пакоя?

-- Не, бацька. Гэта я сама несла кацёл і выпадкова перакінула яго.

Разалі гаварыла ледзь чутна і не асмельвалася зірнуць на бацьку.

-- Вазьмі дзяркач, -- сказаў Прудан, -- ды прыбяры ўвесь гэты бруд.

-- Дзеркача болей няма, -- прызналася дзяўчына.

-- Няма дзеркача? Але ж калі я выходзіў, ён быў.

-- Я спаліла яго, выпадкова, калі... калі...

Яна замоўкла. Бацька пільна паглядзеў на яе, потым неспакойным вокам прабег па пакоі і паволі рушыў да хаткі ў садзе.

Разалі апусцілася на крэсла і зарыдала. А Мыш сядзела моўчкі і ні разу не паварушылася. Праз колькі хвілін Прудан вярнуўся, на твары ў яго быў вялікі спалох.

-- Разалі, няшчасная, што ты зрабіла? -- прамовіў ён. -- Ты паддалася сваёй злачыннай цікаўнасці і выпусціла на волю нашага самага лютага ворага!

-- Бацька, даруйце мне, даруйце, -- пачала прасіць Разалі і кінулася бацьку ў ногі. -- Я не ведала, што раблю так дрэнна.

-- Так заўсёды бывае з тымі, хто не слухаецца, Разалі. Яны думаюць, што калі і робяць дрэнна, дык толькі трошкі, а ўрэшце прычыняюць вялікае гора і сабе, і іншым.

-- Але, бацька, што ж гэта за Мыш і чаму вы яе гэтак баіцеся? Калі яна такая магутная, то як вы маглі так доўга трымаць яе пад замком і чаму не можаце пасадзіць зноў?

-- Гэтая Мыш, дачушка, -- злая і магутная варажбітка. А сам я -- чарадзей Прудан. І калі ўжо ўсё роўна ты выпусціла майго ворага, то цяпер я магу раскрыць табе праўду, якую мусіў хаваць пятнаццаць гадоў. Дык вось, як я ўжо сказаў, я чарадзей. А твая маці была звычайная смяротная. Але яе добры характар і прыгажосць так спадабаліся каралеве феяў і каралю чарадзеяў, што яны дазволілі мне з ёй ажаніцца. На вяселле я зладзіў вялікі банкет, але на няшчасце забыў запрасіць на яго Мярзотную варажбітку, якая і без таго вельмі злавалася, што я выбраў звычайную прынцэсу і не захацеў ажаніцца з яе дачкой. І таму яна прысягнула люта адпомсціць маёй жонцы і дзецям. Яе пагрозы мяне не спалохалі, бо я быў амаль такі самы магутны, як і яна, і апроч таго мяне вельмі любіла каралева феяў. Не раз я сваімі чарамі не даваў здзейсніцца помсце Мярзотніцы. Але пасля твайго нараджэння твая маці адчула сябе вельмі блага, і я быў няздольны ёй дапамагчы. На хвіліну я адлучыўся, каб паклікаць на дапамогу каралеву феяў...

*(Працяг у наступным нумары)*

З вучнёўскай творчасці

## ВОСЕНЬ

Восень холад пускае,
Вятрам халодным
Песні спявае,
Лісце раскідае:
Многа іх!
Хоць на іх пішыце!
Махае рукой Лету
Залатая пара свету.

**ЮРКА БУЙНЮК,**
**Малінікі**

*Заслухалася...* **Фота М. Лукшы**

## НАДВОР'Е І НАРОДНЫЯ ПРЫКМЕТЫ

Першы восеньскі снег з завірухаю -- прыкмета доўгай восені з частымі снегападамі.

Гусі адлятаюць у вырай -- зіму на хвастах цягнуць.

Чорныя воблакі па небе ідуць нізка і хутка -- дрэннае надвор'е будзе працяглы час.

## БЕЛАРУСКАЕ ТЭЛЕБАЧАННЕ

### ПАНЯДЗЕЛАК, 4 КАСТРЫЧНІКА

8.00 Пад купалам Сусвету. 8.15 „Цётка Маруся". Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 10.25 „Па дарогах „Слова ба палку Ігаравым". Дакументальны Фільм. 11.05 Вецер вандраванняў. Тэлевізійнае падарожжа. 11.45 Вяртанне з небыцця. Памяці кампазітара М.А. Іванова. 12.30 Навіны. 12.40 „Блакітныя гарады". Фільм-канцэрт. 13.45 „Адпачынак у верасні". Мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 16.05 Тэлебачанне — школе. Прыродазнаўства. 4-ы клас. Па старонках Чырвонай кнігі Беларусі. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 „Галубы, мае вы мілыя..." Дакументальны фільм. 17.00 „Спасціжэнне ісціны". 18.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Брэст). 18.10 Размова з падатковым інспектарам. 18.35 Эканамічная хваля. Праблемы беларускага таварнага рынку ці чаму пусцеюць гандлёвыя паліцы. Прамая лінія. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 Спартыўны тэлекур'ер. 21.05 Гандбол. Кубак уладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін. ВВВ — „Універсітэт" (Гомель) — АЗС (Вроцлаў, Польшча). 22.15 Да 60-годдзя Беларускага дзяржаўнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета. „Архіварыус". Частка 1-я. 22.45 НІКа.

### АЎТОРАК, 5 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Любоў ящчэ быць можа..." Тэлевізійны дакументальны фільм. 7.55 Тэлевізійная дошка аб'яў. 8.00 Тэлебачанне — школе. Прыродазнаўства. 3-ці клас. Па старонках Чырвонай кнігі Беларусі. 8.20 Гандбол. Кубак уладальнікаў кубкаў еўрапейскіх краін. ВВВ — „Універсітэт" (Гомель) — АЗС (Вроцлаў, Польшча). 9.30 Тэлевізійны Дом кіно. 10.20 Аўтарскі вечар кампазітара Эдуарда Казачкова. 12.30 Навіны. 12.40 „Сустрэча". Мастацкі фільм. 13.40 „Ромка, Фомка і Артос". Мультфільм. 1,2,3-ці выпускі. 14.10 „Белвідэацэнтр" прадстаўляе: дакументальны фільм „Зоя Літвінава". 14.30 „Нов & К"-топ-10. 15.30 Тэлебачанне — школе. Выяўленчае мастацтва. 4-ы клас. Народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. 16.00 „Гэта зусім не пра гэта", „Тайна цацак", „Плюх і Пліх". Мультфільмы. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 „Драўляныя рамёствы". Дакументальны фільм. 16.55 Навіны Бі-Бі-Сі. 17.25 Хакей. Чэмпіянат МХЛ. „Цівалі" — (Менск) —Пардаўгава" (Рыга). У перапынку (19.05) — Абласныя навіны (Віцебск). Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.45 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Дзяжурная аптэка". Тэлесерыял. Заключная серыя. 21.45 Да 60-годдзя ДАВТа Беларусі. „Архіварыус". Частка 2-ая. 22.15 Стоп-кадр. Крымінальная хроніка. 22.35 НІКа. 23.50 „Нов & К" прадстаўляе: „Рок-архіў". Інтэлектуальны рок „Даэр Стрэйтс".

### СЕРАДА, 6 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Восеньскі вернісаж". Кінанарыс. 7.35 Клуб „Гаў-гаў". 8.00 Тэлебачанне — школе. Выяўленчае мастацтва. 4-ы клас. Народнае дэкаратыўна-прыкладное мастацтва. 8.30 „Дзяжурная аптэка". Тэлесерыял. Заключная серыя. 9.30 „Нов & К" прадстаўляе: „Рок-архіў". Інтэлектуальны рок „Даэр Стрэйтс". 10.30 Мы гэта можам. Дабрачынны канцэрт. 12.30 Навіны. 12.40,„Людзі і дэльфіны". Трохсерыйны мастацкі фільм. 1-я і 2-я серыі. 15.05 Відзьма-нявідзьма. Навіны кіна відэа-аўдыё. 16.05 Для школьнікаў. Скарбы беларускай гісторыі. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 „Пакацігарошак". Мультфільм. 16.50 Творчае маладзёжнае аб'яднанне „Крок". „Пяць зорак". Тэлегульня. 17.50 Абласныя навіны (Гомель). 18.00 Футбол. Кубак Беларусі. 1/2 фіналу. „Дынама" (Менск) – „Дынама" (Брэст). 2-гі тайм. 18.50 Да 60-годдзя ДАВТа Беларусі. Выступленне намесніка міністра культуры У.П. Рылаткі. 18.55 „Архіварыус". Частка 3-я. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Стэла". Мастацкі фільм (ЗША). 22.35 НІКа.

### ЧАЦВЕР, 7 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Раз на раз не прыходзіцца". Мастацкі фільм. 8.40 „Вобраз". Літаратурны тэлечасопіс. 9.30 Футбол. Кубак Беларусі. 1/2 Фінала. „Дынама" (Менск) — „Дынама" (Брэст). 2-гі тайм. 10.15 Грай, гармонік! Свята ў Дрыбінскім раёне Магілёўскай вобласці. 11.30 Творчае маладзёжнае аб'яднанене „Крок". „Пяць зорак". Тэлегульня. 12.30 Навіны. 12.40 „Людзі і дэльфіны". Трохсерыйны мастацкі фільм. 3-я серыя. 14.45 „Даніла і Няніла", „Вясёлы падманшчык", „Чароўная птушка". Мультфільмы. 15.15 „ПІК" прадстаўляе: „Вінігрэт". 15.55 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 11-ы клас. Песня, напісаная сэрцам (М. Танк і яго паэзія). 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 Здароўе. Тэлечасопіс. 17.10 Зачытайце маё пісьмо... 17.20 Навіны Бі-Бі-Сі. 17.50 Да 60-годдзя ДАВТа Беларусі. Гала-канцэрт майстроў беларускай оперы. Трансляцыя. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Працяг гала-канцэрта майстроў беларускай оперы. Трансляцыя. Пасля заканчэння (22.20) — Пад купалам Сусвету. 21.30 Творчае маладзёжнае аб'яднанне „Крок". Студыя „Сэнс" у Валожынскім раёне. 23.00 НІКа.

### ПЯТНІЦА, 8 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Фальклорныя матывы". Фільм-канцэрт. 7.55 Тэлевізійная дошка аб'яў. 8.00 Тэлебачанне — школе. Беларуская літаратура. 11-ы клас. Песня, напісаня сэрцам (М. Танск і яго паэзія). 9.30 Дакументальныя фільмы „Калыханка з лялькай". „Эскізы да партрэта". 9.25 Мастацкі ліцэй. 9.50 Футбол + песні. Музычна-спартыўнае шоў на менскім стадыёне „Дынама". 13.30 Навіны. 12.40 „Пікавая дама". Мастацкі фільм. 14.10 „Ці ў мяне пад вакном... „Фільм-канцэрт. 14.45 „Трыццаць шэсць радасцей". Дакументальны фільм. 15.45 Голас. Літаратурна-мастацкі відэаканал для школьнікаў. 16.30 Навіны (з сурдаперакладам). 16.40 „Дзе яно, каралеўства Лябедзія?" Дакументальны фільм. 17.30 Навіны Бі-Бі-Сі. 18.00 Абласныя навіны (Магілёў). 18.10 Пазіцыя ўрада. Актуальнае інтэрв'ю. 18.25 Знаёмы незнаёмец. Канцэрт „Амкадор" — удзельнік выстаўкі „Будпрагрэс-93". 18.50 Пасля паводкі. Аб ліквідацыі вынікаў летняй стыхіі на Палессі. 19.35 Кантакт: адрасы, прапановы, інфармацыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.45 „Выйсці замуж за капітана". Мастацкі фільм. 22.15 НІКа. 23.30 Майстэрня. Мастак Віктар Маркавец.

### СУБОТА, 9 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 „Выйсці замуж за капітана". Мастацкі фільм. 9.00 Паказвае Гомель. „Рэгіён". Інфармацыйна-аналітычная праграма. 10.00 Тыдзень планеты. Міжнародны агляд. 11.15 Урокі здароўя. Аздараўленчы бег восенню і зімой. 10.45 20 мінут рэдактара. Па пісьмах гледачоў. 11.05 Паміж намі, жанчынамі... Прыгожай можа быць кожная. 11.50 Запрашальны білет. Выступленне дзіцячых мастацкіх калектываў г. Мазыра. 12.30 „Вяртанне Дамавічка". Мультфільм. 13.00 „Скарб-93". Фестываль талентаў. 14.00 Якія мы гаспадары? Гомельскі завод вымяральных прыбораў. 14.30 Роднае слова. Тэлечасопіс. 15.00 „Мой лёс — каханне". Аўтарскі вечар кампазітара Ігара Лучанка. 16.30 Навошта дадзена ўлада. Карэліцкі раённы Савет народных дэпутатаў. 17.00 „Нов & К"-топ-10. 18.00 Да 60-годдзя ДАВТа Беларусі. Урачысты вечар. Трансляцыя. 19.40 Калыханка. 20.00 Панарама. 20.35 Пад купалам Сусвету. 20.50 „Хвіліна для малітвы, секунда для смерці". Мастацкі фільм (ЗША). 22.40 Да 60-годдзя ДАВТа Беларусі. Урачысты вечар. Працяг.

### НЯДЗЕЛЯ, 10 КАСТРЫЧНІКА

7.00 Раніца рэспублікі. 7.10 Пад купалам Сусвету. 7.25 Слова да чалавека. Звяртенцца прапаведнік Хрысціянскай місіі Рык Рэнер. 7.55 Справы вайсковыя. Свята авіятараў у Бабруйску. 8.40 „Стэла". Мастацкі фільм (ЗША). 10.30 Асілак. Тэлевізійны спартыўны клуб. Прамая лінія. 11.30 Мы такія розныя. Музычна-забаўляльная праграма з удзелам дзіцячых мастацкіх калектываў Старадарожскага раёна. 12.20 Кіназкран-93. Кастрычнік. 13.15 На крылах кажана. Пазнавальна-забаўляльная гульня для падлеткаў. 14.25 Таямніца. Праграма для сям'і. 14.55 Мультканцэрт. 15.35 „Старыя-разбойнікі". Мастацкі фільм. 17.05 З панядзелка... Захавай цеплыню. 18.45 Да 30-годдзя творчай дзейнасці народнага артыста СССР В. Елізар'ева. А. Хачатуран. „Спартак". Спектакль ДАВТа Беларусі. У перапынках: (20.20) — Панарама. 20.55 — Калыханка. 21.00 „Каскад". Кантакт, інфармацыя, рэклама. 21.15 Пад купалам Сусвету. 21.25 Відзьманявідзьма. Навіны кіна-відэа-аўдыё. 22.25 Футбол. Чэмпіянат Беларусі. ФК „Маладзечна" — „Дынама" (Менск).

## ВЕР-НЕ-ВЕР

Дарагі Астроне! Страшнавата мне стала пасля таго, як прысніўся мне вось такі сон. Я на вёсцы, у хаце маіх цесцяў (яны ўжо не жывуць). У пакоі я гутару з брацавай майго мужа, якая таксама ўжо памерла. Яна мне гаворыць пра сваю дачку, якая вучыцца ў пачатковай школе. Добра, кажа, што яна з матэматыкай сабе дае раду, бо з іншых прадметаў то мы ёй паможам, а з матэматыкай то ўжо горай было б. Але вось што мяне непакоіць: увесь пакой — гэта была быццам пасцель, прасціной засланая. Пасярэдзіне стаіць свечка грамнічная, незапаленая.

А бабульцы, якая адна на вёсцы жыве (яна хварэе) і ў той час кепска сябе адчувала, прысніўся яе муж (ён не жыве). Прыйшоў, ды кажа: „Паеду купляць новую хату!" А яна адказвае: „Не трэба, не купляй, нам і старой хопіць". Канец сну. Што могуць абазначаць гэтыя сны?

**Вера**

Даражэнькая Вера! Сны нядобрыя. Твой сон гаворыць аб нейкай сур'ёзнай хваробе (увесь пакой быў засланы прасцінай), а нават аб цяжкой страце ці прынамсі смутку, што прадвяшчае свечка, якая не гарэла (страта — калі свечка згасла).

Што датычыць сну бабулькі, дык і добра, што яна адмовілася ад той новай хаты, бо для яе яна абазначала б хуткую смерць. А дзеду што! Яму і так усё роўна, бо ён ужо нябожчык.

**АСТРОН**

## КУХОННЫЯ ПАРАДЫ

*З МАНАСТЫРСКАЙ КУХНІ*

**КАПУСТА З ГРЫБАМІ**

Прадукты:
*1 кг капусты,*
*2 сярэднія цыбуліны,*
*1 пятрушка,*
*1 лаўровы лісток,*
*8—10 зярнят перцу,*
*40—50 дэкаў свежых грыбоў,*
*1 лыжка мукі,*
*2 лыжкі смятаны,*
*алей,*
*зяляніна пятрушкі.*

Дробна пашаткаваную капусту стушыць, дадаўшы крыху вады. дадаць сцертую на тарцы пятрушку і пасечаную цыбулю. Укінуць лаўровы лісток і перац, пасаліць.

Асобна зварыць дробна нарэзаныя грыбы. Грыбы адцадзіць (адвар захаваць) і дробна пасячы.

Да падгатаванай капусты дадаць крыху падсмажаную на патэльні муку, перамяшаць. Тады капусту і пасечаныя грыбы ўкінуць у грыбны адвар (яго павінна быць каля 2 літраў). Дадаць смятану і пасечаную зяляніну пятрушкі. Падаграваць на працягу гадзіны на вельмі малым агні, не дапускаючы да кіпення.

**ГАСПАДЫНЯ**

## ВАРТА ВЕДАЦЬ

* З дапамогай анучкі, змочанай у малацэ, вы можаце зняць свежыя чарнільныя плямы, пачысціць люстэрка, клавішы музычных інструментаў, рамы карцін.

* Старыя плямы масляной фарбы можна зняць з тканіны, калі крышку змазаць іх маргарынам або сметанковым маслам, а праз некаторы час пацерці газай, шкіпінарам (terpentyna) або бензінам. Затым рэч трэба памыць.

**(а-ця)**

## КРЫЖАВАНКА



**Гарызантальна:** 3. знак складання, 8. польскі кінарэжысёр, 9. сібірская рака, 10. сіцылійскі вулкан, 11. горад між Варшавай і Вроцлавам, губернскі за царскіх часоў, 13. стан баксёра пасля моцнага ўдару, 15. Мікола, аўтар „Песні пра зубра" (1480-1533), 16. шалёны разгул ведзьмакоў і ведзьмаў, 20. пацерка, 22. вучонае званне, 23 і 27. горад у Японіі, 29. крайняя беднасць, 30. „пшанічны" штат ЗША, 31. музыка амерыканскіх неграў, 32. бурная спрэчка, 33. частка шыі, 34. адгалосак.

**Вертыкальна:** 1. на шыі, 2. пацяпленне пасля марозу, 4. бутэлька ёмкасцю ў 1 літр, 5. публічны паказ, 6. моцная амерыканская гарэлка, 7. італьянскі порт, 12. старшыня Вярхоўнага Савета Беларусі, 14. штат у ЗША, 16. ціхая мова, 17. не сястра, 18. правіннасць, 19. высокая тэмпература, 21. старажытнагрэчаскі астраном, прэкурсор Каперніка, 24. вялікі горад у В'етнаме, 25. куе жалеза, 26. выраб з арэхаў і сланечніка, 27. банда, 28. радыёлакатар.

**(Ш)**

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку з 33 н-ра:**

**Гарызантальна:** Ашот, вазак, абычай, хром, бісер, абарог, рэпартаж, голад, абурэнне, Маракана, чутка, батлейка, камора, айчым, клык, каркас, Ньяса, Іран.

**Вертыкальна:** даміно, папера, шарлатан, тамат, тыраж, парог, рэдактар, батрачка, гімн, Ліра, янот, неба, балерына, Уайльд, крыкса, банан, бочка, таксі.

Кніжную ўзнагароду атрымоўвае **Аляксандр Дабчынскі** з Беластока.





**"Niwa"**
ul. Suraska 1, 15-950 Białystok,
skr. poczt. 149, tel. 210-33.

Druk: "ORTHDRUK", Białystok,
ul. Składowa 9.

**Tygodnik białoruski sponsorowany przez Ministerstwo Kultury i Sztuki.**

**Рэдагуе калектыў:**

Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Віталь Луба (сакратар рэдакцыі), Міраслава Лукша, Аляксандр Максімюк, Ян Максімюк, Яўген Міраповіч (галоўны рэдактар), Яўгенія Палоцкая (машыністка), Галіна Рамашка (кіраўнік канцылярыі), Марыя Федарук (машыністка), Ада Чачуга.

**Выдае:**

Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".

Prenumerata.

1. Termin wpłat na prenumeratę na I kwartał 1994 r. upływa 20 listopada 1993 r. Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie woj. białostockiego i oddziały "Ruch" na terenie całego kraju.

2. Cena prenumeraty na I kwartał wynosi 52 000 zł.

3. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RUCH S.A. Oddział Warszawa, ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa.

Nr konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

4. Prenumeratę można zamówić w redakcji. Cena 1 egz. wraz z wysyłką do końca br. wynosi 6000 zł., a kwartalnie - 78000 zł., a od 1.01.1994 r. — odpowiednio 7000 zł. i 91000 zł. (jeżeli nie zdrożeją koszty wysyłki pocztą). Wpłaty przyjmuje Rada Programowa Tygodnika "Niwa", Białystok, ul. Suraska 1, nr konta PBK SA, I Oddział Białystok, 370406-207917-132.

*АМБРОЗ БІРС*

## СА „СЛОЎНІКА Д'ЯБЛА"

**Святар** — чалавек, які займаецца ўрэгуляваннем духоўных спраў, каб паправіць свае матэрыяльныя справы.

**Святы** — перапрацаваны і адрэдагаваны мёртвы грэшнік.

**Свяшчэннае пісанне** — святыя кнігі нашай мілай рэлігіі. У адрозненне ад памылковых і нават ілжывых, на якіх засноўваюцца іншыя веравызнанні.

**Смутак** — хвароба, якую выклікае дабрабыт сябра.

**Спачуваць** — паказваць, што шкадаванне — меншае зло, чым сімпатыя.

**Спіна** — тая частка цела нашага сябра, якую бачым, калі знаходзімся ў цяжкім становішчы.

**Сусед** — чалавек, якога нам загадалі любіць, як саміх сябе, і які робіць усё магчымае, каб мы не маглі выканаць загад.

**Сучаснасць** — адрэзак вечнасці, які аддзяляе царства расчаравання ад княства надзеі.

**Сэнс** — рэч, якой бракуе большасці сучасных твораў гумарыстаў.

**Сяброўства** — карабель, які можа несці дваіх у добрае надвор'е, але толькі аднаго ў шторм.

**Тубыльцы** — нічога не вартыя людзі, якія капаюцца ў зямлі толькі што адкрытых краін. Хутка яны ўжо не капаюцца там, а робяцца ўгнаеннем.

*З англійскай пераклаў*
*Алесь Кудраўцаў*







*Малюнак В. Ключніка*

## ТОСТЫ

Для п'янкі ёсць такія повады:
Памінкі, фэст, сустрэча, провады,
Хрысціны, банкет і развод,
Мароз, каляды, Новы год,
Выздараўленне, наваселле,
Журба, шкадоба і вяселле,
Узнагарода, новы чын
І проста п'янства — без прычын!

* * *

Нашыя цудоўныя жанчыны дзеляцца: на дам, не дам і дам, але не вам. Тады прапаную выпіць за дам!

## СЕНТЭНЦЫІ

У неба нявінныя вочы на зямлі.

* * *

Усе мы роўныя... у сне.

* * *

Пустое слова не даходзіць да неба.

* * *

Жыццё без рызыкі, як суп без прыправаў.

* * *

Якая торба, такі і пастух.

**БАРЫС РУСКО**




Даражэнькае Сэрцайка! Ты ўсё пішаш пра лагеры, пра летнія прыгоды. Мне летам таксама надарыўся хлопец, які мяне расчараваў.

Спачатку я яго зусім не прыўважыла нават. У нашым лагеры моладзі было шмат. Былі хлопцы вельмі статныя нават і прыгожыя. А ён быў такі звычайны, я б сказала, нават крыху шэры. І апрануты быў вельмі скромна, а на джынсах не было ніякіх дзірак, як у іншых.

Якраз арганізавалі вечар у нашай лагернай сталоўцы. Быў невялікі пачастунак, іграла музыка, мы танцавалі, можна было купіць кока-колу ці марожанае. Да століка, які мы з сяброўкай занялі, прыселі два хлопцы. І так пачалося. Мы танцавалі, п'ючы ў перапынках колу, размаўлялі.

Неспадзявана для сябе я адкрыла харасство гэтага хлопца. Яно не кідалася ў вочы, але ішло ў яго з сярэдзіны. Ён быў надта разумны, усё ведаў. А да таго быў далікатны і чулы. У яго былі цудоўныя вочы.

Вярталіся ўсе разам. Я ад уражанняў не магла заснуць цэлую ноч. Усё думала пра яго, уяўляла сабе яго твар, светлыя валасы, абаяльную ўсмешку. І той пацалунак у руку на развітанне... Думаю, што менавіта гэтай ноччу, а не на тым вечары я закахалася ў яго.

А пасля ён часта шпацыраваў са мною, гулялі мы таксама ў тэніс, у баскетбол. Ён быў у адносінах да мяне вельмі ветлівы і сардэчны. Расказваў мне шмат пра сваю сям'ю -- бацькоў, брата, пра школу. Вельмі непакоіўся, ці ў будучым годзе паступіць у медыцынскую акадэмію, бо перайшоў у матуральны клас. Быў на адзін усяго год старэйшы за мяне, а такі разумны! Я пераконвала яго, што ён напэўна здасць экзамены, што будзе лекарам. Калі не ён, дык хто ж бы меў здаць! Мне было прыкра, бо не было асабліва чым хваліцца. У школе я мела нават і тройкі, а куды пайду вучыцца, ды і ці наогул пайду, я яшчэ не ведала. Дык любіла гаварыць з ім на агульныя тэмы. Гаварылі і пра каханне. Праўда, ніякіх дэкларацый з яго боку не было, але я адчувала, што таксама яму падабаюся. Часамі, калі мы сядзелі ля возера ці ішлі, ён абдымаў мяне, а пару разоў нават пацалаваў у шчаку. Я была ў сёмым небе! Яшчэ ж мяне ніводзін хлопец не цалаваў. Вось цяпер і я знайшла сабе хлопца!

Я вельмі цешылася, што і хлопец жыве ў Беластоку. Уяўляла сабе, як будзем сустракацца, калі вернемся дахаты, як будзем разам хадзіць зімою на лыжах, бавіцца ў дыскатэцы. Нашыя ліцэі нават знаходзіліся даволі блізка, ды і жылі мы ў адным раёне. На развітанне я дала яму мой тэлефон і адрас.

На жаль, мінула ўжо паўтара месяца, а ён нават не адазваўся. Як у ваду кануў. Нават ніколі я яго не сустрэла выпадкова. Ну што, ісці мне і стаяць каля яго школы, выглядаючы, калі ён выйдзе? Мне ж і сорамна крыху, і гонар не дазваляе. А як жа мне інакш знайсці яго? Ды і ці варта?! Але вельмі кахаю яго і перажываю. Што рабіць?

**Тося**

Тося! Здаецца, ты не зусім правідлова ацаніла гэтага хлопца. Яго элегантныя паводзіны ў адносінах да цябе зусім не абазначалі, што ён закаханы. Проста ты яму падабалася, як магла падабацца не адно мілае дзяўчо. Ён цябе то прытуліў, то цмокнуў у руку ці шчаку, быў з табою часта, бо было яму з табой прыемна, і гэта ўсё. А ты, бедалага, закахалася. А цяпер спадзяешся, што і ён закаханы ў цябе ў такой жа ступені. Тады было лета, у яго нічога не вісела над галавою, а вольнага часу было шмат. А цяпер...

Вядома, ты маеш рацыю! Чаго тырчэць ля яго школы, быццам на пасмешышча! Мусіш быць цярплівай! Калі жывеце ў адным раёне, дык можа калісь сустрэнецеся. Тады, калі зусім не будзеш спадзявацца. Жыццё часамі робіць такія штучкі.

А калі ён будзе маўчаць да зімы і вы не сустрэнецеся нідзе, дык спрабуй прабіцца на нейкі школьны баль у іхным ліцэі (найлепш з адным з яго сяброў). А як убачыш яго, усміхніся шырока, скажы "Чэсць!" і як ні ў чым не бывала танцуй далей са сваім партнёрам.

Убачыш, падыдзе. Толькі не кідайся яму на шыю, але дазволь запрасіць цябе на танец.

**СЭРЦАЙКА**

P. S. Аднак жа хлопец гэты сапраўды быў сумленны: ніякіх дэкларацый аб каханні не было, а тэлефона свайго ці адраса ён табе таксама не даваў.

**С.**

## ЗДАНІ І ПАЧВАРЫ БЕЛАРУСІ

**Уступ. Агульныя звесткі.**

У апошні час з набыццём Беларуссю незалежнасці і самастойнасці многія прадстаўнікі нацыяналістычнага адгалінавання тутэйшых флоры і фаўны, факт існавання якіх савецкія прарасейска настроеныя батанікі і заолагі доўгі час замоўчвалі, нарэшце рэабілітаваныя і прызнаныя. На гэтае было дзве прычыны: па-першае — у расейскім жывёльным і раслінным свеце аналагаў ім не было (напрыклад — рамонак бел-чырвона-белы), а па-другое — гэтыя жывёліны супрацоўнічалі спачатку з урадам БНР, а потым і з акупацыйным рэжымам гітлераўскае Германіі (напрыклад — некаторыя нарачанскія русалкі).

Тое ж самае тычыцца прадстаўнікоў пачварнага і замагільнага свету Беларусі. Да таго ж, камуністычныя навукоўцы і іх паслугачы-найміты не давалі веры сумленным сведкам з'яўлення пачвараў і зданяў: алкаголікам, наркаманам, таксікаманам і нацыяналістам. Гэта тлумачылася перш за ўсё тым, што арэал існавання надзвычайных істот досыць спецыфічны. Які ж законапаслухмяны чалавек пойдзе апоўначы на закінутыя могілкі, у трупярню, на скрыжаванне дарог, у разбураны і запакуджаны касцёл... Цяпер жа, дзякуючы намаганням патрыятычных колаў, нарэшце аднаўляецца вера ў надзвычайнае. Выдавецтва „Тутэйшае Цемрашальства" рыхтуе да выдання каляровы атлас „Пачварныя істоты нашага краю". Гэтая праца вядзецца сумесна з аддзяленнямі паталогаанатоміі міністэрства вантробных справаў рэспублікі і камітэтам па картаграфіі і геадэзіі. Але пакуль што гэтае выданне не з'явілася, каб задаволіць цікаўнасць чытачоў да надзвычайнага і пачварнага свету нашае Бацькаўшчыны, мы і змяшчаем некаторыя выняткі з гэтае працы.

Як і ў акадэмічнай біялогіі здані і пачвары маюць сваю класіфікацыю: віды, падвіды, атрады, класы...

### I. МОГІЛКАВЫЯ ІСТОТЫ

**Вупар.** Гэтая пачвара вядзецца па ўсёй тэрыторыі рэспублікі, і паўсюль мае аднолькавы выгляд. Праўда, апошнім часам некаторыя відавочцы сцвярджаюць, што сутыкаліся ў Чарнобыльскай зоне з Вупарамі-Мутантамі. Калі не зважаць пакуль на гэтую акалічнасць, а да яе мы вернемся пазней, Вупар Звычайны мае наступны выгляд і характар:

Выгляд нармальнага мерцвяка трох-чатырохтыднёвае даўніны — з зялёнымі плямамі па ўсім целе, глядзіцца няголеным, калі гэта мужчына. Іклы мае прыкладна ўдвая даўжэйшыя за разцы і яны насоўваюцца на ніжнюю губу. Адрозніць вупара ад жывога чалавека можна так: адрэзаць яму галаву — чалавек пасля гэтага маўчыць, а вупар адразу пачне лаяцца. Характар у вупараў вельмі агрэсіўны і непрадказальны, што відаць з пратакола, складзенага малодшым сяржантам Ж. сталічнага пастарунка міліцыі са слоў аднаго пацяпрелага. У ім падавалася наступнае:

„Дзяжурны сантэхнік Хведар Т. вяртаўся з другой змены. На вуліцы Міколы Гусоўскага ў раёне Кальварыйскіх могілак яго пераняў нейкі дзіўнаваты фацэт з эмалевым вядром у руцэ і прапанаваў выпіць. Хведар, натуральна, пагадзіўся. Незнаёмец запэўніў, што ведае хату, дзе зараз можна ўзяць спіртнога. З думкаю, што яны кіруюцца да звычайнай самагоншчыцы па бімбэр, рабочы пайшоў за незнаёмцам. Фацэт старанна абмінаў сядзібы, на брамах якіх быў прыбіты крыж. Нарэшце спыніўся перад домам з чырвонай пяцікансовай зоркай і, папрасіўшы Хведара пачакаць, зайшоў. Праз нейкі час фацэт вярнуўся, згінаючыся пад цяжарам поўнага вядра. Яны прыпыніліся каля аўтаматаў з газіраванаю вадою і фацэт разліў прынесенае пітво па шклянках. У святле поўні Хведар заўважыў, што ў ягонае шклянцы цёплая кроў і катэгарычна адмовіўся піць. Фацэт спачатку спрабаваў яго запэўніць, што гэта проста вельмі свежае, яшчэ неастылае піва, а потым, раптам угневаўшыся, надзеў яму вядро на галаву. Непрытомнага акрываўленага сантэхніка з вядром на галаве падабраў на патрульнае машыне пастарунковы міліцыянт Ж. Спецыяльнае падраздзяленне, пасланае ў дом пад чырвонай зоркай, знайшло там абяскроўлены труп гаспадара — ветэрана ўзброеных сілаў. Па свежых слядах міліцыянты злавілі фацэта Вупара: ім аказалася асоба каўказскай нацыянальнасці, як высветлілася на допыце — гомасексуаліст. Каўказец заразіўся вупарызмам даволі рэдкім для гэтай хваробы палавым шляхам — разрыў свежую магілу і згвалціў хлопчыка-нябожчыка".

Калі тэхналогія абароны ад Вупара Звычайнага мае даўнія традыцыі і выдатна распрацаваная, то чарнобыльскага Вупара-Мутанта не стрымаюць ані часнычны дух, ані святая вада, ані срэбная куля, пазначаная крыжам. Гэтая пачвара падлягае хіба што дэзактывацыі.

Найбольшую небяспеку ўяўляюць з сябе Вупары-жанчыны, якія нахабна дзейнічаюць па рэстаранах, барах і гатэлях пад выглядам прастытутак. За невялікую плату яны згаджаюцца заняцца аральным сексам, пасля чаго размілаванаму і страціўшаму пільнасць кліенту адкусваюць геніталі, каб зручней было высмоктваць кроў. Але адрозніць іх ад сапраўдных прастытутак няцяжка — яны вельмі халодныя на дотык. Калі якая надзвычай халодная паненка скажа вам, што проста змерзла, стоячы на вуліцы, прымусіце яе змыць касметыку і пад ёю абавязкова праявяцца зялёныя трупныя плямы.

*(Працяг будзе)*
Падрыхтавалі
**ФРАНЦІШАК ХЛУС і МАРЦІН ЮР**